18 снежня 2020 | № 48 (707)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**«Толькі беларусы могуць дапамагчы беларусам»**
**стар. 10**




# Разам — да новай Беларусі!

Аксана КОЛБ

Шаноўныя чытачы! Вы трымаеце ў руках перадапошні нумар 2020 года. Года, які без перабольшвання можна назваць эпахальным у гісторыі Беларусі. Гэты год мы былі з вамі разам.

Мы імкнуліся рабіць сваю працу сумленна і з кожным нумарам прыносіць у ваш дом не толькі свежую інфармацыю, але і надзею на лепшую будучыню для нашай краіны. Нам хацелася, каб кожны нумар «Новага Часу» даваў вам новыя веды і прымушаў задумацца над тым, што адбываецца ў Беларусі і ў свеце. Спадзяемся, у нас гэта атрымлівалася.

На жаль, «Новы Час» застаўся фактычна адзінай грамадска-палітычнай газетай на роднай мове, што сёння яшчэ выходзіць у Беларусі. І адным з нешматлікіх папяровых выданняў, якія перажылі гэты год. Нашы калегі з «Народнай волі», «Свабодных навінаў», «Белгазеты» былі вымушаны прыпыніць выхад папяровай версіі — упершыню за некалькі дзесяцігоддзяў.

Мы яшчэ выходзім, пакуль «Новы Час» ёсць у падпісным каталогу РУП «Белпошта», і свежы нумар штопятніцу можна набыць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Дзякуй вам, што нас падтрымліваеце, купляеце і чытаеце. Дзякуй, што пішаце нам лісты і дзеліцеся сваімі думкамі. А мы вельмі цешымся тым, што маем гонар дзяліцца з вамі нашымі думкамі.

Гэты год быў няпросты для нас, няпросты для ўсіх незалежных журналістаў у нашай краіне. З пачатку жніўня журналістаў затрымлівалі 382 разы, 62 разы да іх ужываўся фізічны гвалт, тры журналісты атрымалі раненні, 79 журналістаў агулам адбылі за кратамі больш за 360 сутак. Дасюль у Беларусі за кратамі застаюцца 5 незалежных журналістаў, а тры з іх — смелыя і прыгожыя дзяўчаты Кацярына Андрэева, Дар'я Чульцова і Кацярына Барысевіч — падазраваныя ў крымінальным злачынстве толькі за тое, што сумленна выконвалі сваю працу.

Такім жа няпростым быў гэты год і для вас, нашы шаноўныя чытачы. Мы ведаем, што шмат хто з вас таксама аказаўся пад катком рэпрэсій. Некаторыя з вас адбывалі адміністрацыйныя арышты, сплачвалі несувымерныя штрафы. А некаторыя чытаюць і гэты нумар за кратамі.

Але нягледзячы на рэпрэсіі, гвалт і кроў, гэты год мы запомнім перш за ўсё нашай неймавернай салідарнасцю, гатоўнасцю дапамагчы і падтрымаць адзін аднаго, што б ні здарылася.

Мы рады, што былі гэты год з вамі і змаглі распавесці пра ўсё, што ведалі і бачылі. Нам вельмі прыемна, што вы былі гэты год з намі, набывалі нас у шапіках, выпісвалі на пошце. Спадзяемся, што ў Новы год вы прыйдзеце з «Новым Часам», а разам мы нарэшце дойдзем да новай вольнай і дэмакратычнай Беларусі.

Шчыры вам дзякуй!

Наш падпісны індэкс: **63279**

# «Медыкі першымі ўбачылі, што зрабілі з людзьмі»

**Анастасія Пілiпчык скончыла медыцынскі ўніверсітэт у 2014 годзе па спецыяльнасці «акушэрства і гінекалогія». Па размеркаванні трапіла ў 3-ю гарадскую клінічную бальніцу ім. Клумава ў Мінску. Праца вельмі падабалася, але ў жніўні медык з'ехала з краіны. Цяпер Наста — адна з тых, хто займаецца Беларускім фондам медыцынскай салідарнасці і дапамогай рэпрэсаваным калегам. HEALTH.TUT.BY пагутарыў з беларускай пра каранавірусную статыстыку і настроі медыкаў.**

Анастасія кажа, што вельмі сумуе па сваёй працы: на новым месцы да яе хутка не прыступіш. Нягледзячы на стаж, трэба фактычна прайсці шлях выпускніка медуніверсітэта. Для беларускі яе спецыяльнасць стала неад'емнай часткай жыцця: працу акушэрам-гінеколагам дзяўчына не пакідала, нават калі атрымала прапанову папрацаваць у Дырэкцыі Еўрапейскіх гульняў, якія праходзілі ў Мінску ў 2019 годзе. Каб не губляць медыцынскі стаж, год сумяшчала кураатарства камандай па медыцынскім абслугоўванні спартыўных аб'ектаў і працу на палову стаўкі па выхадных у бальніцы.

Усё змяніў жнівень 2020-га, калі «па асабістых абставінах» беларуска прыняла рашэнне пакінуць краіну.

Пасля ад'езду Анастасія пазнаёмілася з Андрэем Ткачовым — адным з куратараў ініцыятывы # BYCOVID19. З'явілася ідэя стварэння фонду, які б дапамагаў выключна медыкам, што трапілі на «суткі» або былі звольненыя з-за грамадзянскай пазіцыі.

— Ідэя лунала ўжо ў жніўні, але канчаткова фонд афарміўся ў верасні. Ён гатовы дапамагаць усім, хто звязаны з медыцынай: лекарам, выкладчыкам і студэнтам медыцынскіх ВНУ, медсёстрам.

«Беларускі фонд медыцынскай салідарнасці (ByMedSol) быў арганізаваны як ініцыятыва медыцынскай супольнасці пры падтрымцы Фонду BySol у адказ на рэпрэсіі ў дачыненні да медыкаў, якія адкрыта выказваюць сваю грамадзянскую пазіцыю, — тлумачаць каардынатары фонду. — Раней медыкі таксама маглі атрымаць фінансавую дапамогу, але на агульных падставах у фондах BySol, ByHelp і іншых. З 30 лістапада ByMedSol пачаў фінансавыя выплаты па заяўках медыкаў. На гэты момант выплачана больш за 13 тысяч еўра матэрыяльнай дапамогі (аплата штрафаў, кампенсацыя стратаў у заработнай плаце за час адбыцця адміністрацыйнага арышту, кампенсацыя заработнай платы ў выпадку прымусовага звальнення і г.д.). У фонд ахвяруюць неабыякавыя людзі як з Беларусі, так і з усяго свету».

Анастасія кожны дзень размаўляе з медыкамі з Беларусі, назірае за тым, што вакол іх адбываецца, і адзначае: медыцынская супольнасць стала больш кансалідаванай.

— Агульная прафесійная свядомасць прачнулася, або, правільней сказаць, сфарміравалася. Думаю, «трэніравацца», рыхтавацца да такой медыкаў пачаў 2020-ы год, калі нахлынула першая хваля каранавіруса. Памятаю па нашым аддзяленні: былі гінеколагі, а сталі пульманолагі. Было замяшанне, таму што невядомая хвароба, новыя ўмовы — сродкі індывідуальнай абароны, будаўніцтва шлюзаў. Усе разумелі, што інструкцый няма, для ўсіх усё ўпершыню. Калектыў дзейнічаў без істэрыкі, разам вывучалі, як лепш зладзіць працу аддзялення, дзе зручней паставіць вешалку, скрыню... Гэта можна назваць модным словам цімбілдынг — і гэта ўжо нас моцна аб'ядноўвала.

Пры гэтым у 3-й бальніцы не было праблем з даплатамі: за працу ў інфекцыйны перыяд Анастасія атрымлівала грошы, якія былі афіцыйна абяцаныя. Засмучала хутчэй стаўленне да прафесіі.

— Лінія дзяржавы была непрымевнай: казалі, што каранавіруса няма, ніхто ад яго ў нас не памрэ. Я так разумею: як гэта прагучала на тэлебачанні, пад такую лінію ўжо «падстроіліся» і ўсе астатнія падзеі — і статыстыка, і колькасць смерцяў. З аднаго боку, я магу зразумець: не хацелася наводзіць паніку. Але з іншага — трэба было звярнуцца да людзей, расказаць пра ўсё сумленна. Потым ад спадарыні Качанавай пачулі «віншаванне».

Фонд сочыць за лёсамі ўсіх затрыманых медыкаў. Анастасія звязвае актыўную грамадзянскую пазіцыю калег з тым, што яны «першымі ўбачылі, што зрабілі з людзьмі 9–11 жніўня».

— Некаторыя дзяжурылі пад сценамі Акрэсціна, у Жодзіне — і бачылі, у якім стане людзі выходзілі адтуль. Ад такога ўдвая балюча: твая прафесія — лячыць людзей, начамі ты не спіш, дзяжурыш, а потым глядзіш, як нехта незразумела навошта здзекуецца з людзей. Мне здаецца, таму медыкі і «паўсталі».

Вялікую ролю ў кансалідацыі супольнасці адыграў і тэлеграм-канал «Белыя халаты».

— Пра ўсе затрыманні калегаў паведамляюць у першую чаргу туды. Мы ў фондзе стараемся сачыць за ўсімі гісторыямі і прапаноўваць дапамогу — гэта і фінансавая падтрымка, і юрыдычная. Вельмі шмат медыкаў адседзелі «суткі», у гэты час яны не атрымлівалі зарплату. У медыкаў яна і так не вельмі вялікая, таму страты для кожнай сям'і істотныя, асабліва калі ёсць дзеці.

Адзначае медык і яшчэ адну праблему: пасля «сутак» многія лекары хварэюць на каранавірус — і па гэтай прычыне таксама не могуць адразу вярнуцца на працу.

***— Пераездам часта цікавяцца?***

— Ёсць некалькі чалавек, якія вымушаныя былі з'ехаць. Пакуль такіх выпадкаў няшмат, але, відавочна, будзе больш. Пры гэтым фонд не плануе пракладваць нейкую дарожку, шлях для масавага выезду лекараў з Беларусі — гэта няправільна, асабліва ў такі эпідэміялагічна цяжкі час. Але стаўленне да медыкаў у краіне павінна змяніцца, інакш яны самі пракладуць сабе гэты шлях у эміграцыю.

# «У аўтазаку я ўбачыў на падлозе чалавека ў крыві»

**47-гадовы магілёвец Дзмітрый Хацкоў быў моцна збіты на маршы ў Мінску 11 кастрычніка. З Заводскага РУУС са шматлікімі траўмамі трапіў у шпіталь хуткай дапамогі. Калі яго пачаў шукаць Следчы камітэт, удалося збегчы са шпіталя і з'ехаць у Літву. «Свабода» паразмаўляла з Дзмітрыем Хацковым, які падаў дакументы на атрыманне статусу ўцекача.**

З 9 жніўня Дзмітрый Хацкоў тройчы быў асуджаны паводле артыкула 23.34 КаАП за ўдзел у несанкцыянаваных мерапрыемствах. Спачатку атрымаў 6 дзён арышту, потым былі яшчэ трое сутак і штраф у 25 базавых велічыняў. Затым прысудзілі 15 сутак арышту, якія Хацкоў так і не адседзеў. Цяпер у Беларусі яму пагражае крымінальная справа.

Пасля выбараў, увечары 9 жніўня, Дзмітрый Хацкоў выйшаў у цэнтр Магілёва.

«Ніякіх актыўных дзеянняў мы тады не прадпрымалі, я быў проста ў вышыванцы, якой прыкладна 25 гадоў, — яе мае бацькі мне падаравалі перад выбарамі. Прыехалі аўтазакі, і мяне забралі ў самы першы аўтазак. Спачатку аказаўся ў Чэрыкаве, а потым — у Крычаве, бо месцаў у турмах Магілёва не хапала. Я быў асуджаны судом Чэрыкава на 6 сутак, а потым мяне павезлі ў Магілёў на прафілактычную гутарку да намесніка начальніка УУС Рыжанкова, які даваў каманду АМАПу забіраць людзей. А я гэта чуў», — распавядае пра першае затрыманне Дзмітрый.

У жніўні ў Магілёве людзі выходзілі на вуліцы кожны дзень, стаялі ўздоўж цэнтральных вуліц са сцягамі. 30 жніўня Дзмітрыя выклікалі ў Ленінскае РУУС, паказалі здымкі, дзе ён на пікеце з бел-чырвона-белым сцягам на плячах.

«Сцяг гэты таксама захаваўся з 1990-х, ён вісеў у мяне на гаўбцы з 9 жніўня да моманту, пакуль я з'ехаў. Яго двойчы спрабавалі зняць пажарнікі, але марна.

Гаворка з намеснікам начальніка міліцыі не заладзілася, мяне "закрылі" на тры дні без суда, а потым яшчэ прысудзілі штраф 25 базавых велічыняў», — працягвае ён.

У Магілёве ў верасні пратэставы рух пайшоў на спад, і Дзмітрый па нядзелях пачаў ездзіць на маршы ў Мінск. Спісваліся з аднадумцамі ў тэлеграм-каналах, сустракаліся на пэўным месцы, фарміравалі калону.

11 кастрычніка магілёўцы дамовіліся праз тэлеграм-каналы сустрэцца ў Мінску каля царквы святой Марыі Магдалены і адтуль даволі вялікай калонай вакольнымі шляхамі пайсці ў бок праспекту Пераможцаў. Убачылі, што на другім баку праспекту людзей пачалі біць, — і вырашылі ісці ім на дапамогу.

«Дарога была перагароджаная металічнымі канструкцыямі, стаяла машына ДАІ і аўтобус з АМАПам. З гэтага аўтобуса выскачылі байцы з зялёнымі ліхтарыкамі і чалавек са зброяй. Нас было чалавек 10, яны нападаць не адважыліся, а пырснулі балончыкамі і пайшлі назад.

Мы праваронілі момант, калі з боку стэлы на нас рушыў АМАП. Да мяне спачатку падышоў "ціхар", схапіў за вопратку — ніколі б не падумаў на яго: малады чалавек, прыстойна апрануты. А потым ужо мяне схапілі чацвёра, моцна націснулі на грудную клетку, колькі разоў ударылі дручком, не памятаю, бо адрэналін зашкальваў. Паклалі тварам у асфальт, дзе былі лужыны крыві. Рэальныя лужыны, уяўляеце? Я калі галаву падняў — атрымаў па галаве дручком», — распавядае Дзмітрый.

«Калі нас пачалі грузіць у аўтазак, я ўбачыў на падлозе чалавека ў крыві. Не ведаю, ці ў прытомнасці ён быў і што далей з ім стала. Потым пачалі дубасіць мяне кулакамі, дручкамі — абараніцца не было як, бо рукі звязаныя за спінай. У выніку запхнулі ў «стакан» чатыры чалавекі, а той хлопец так і застаўся ляжаць у крыві на падлозе. У клетцы была сумесь крыві і поту: то адзін губляў прытомнасць, то другі. Папрасіў адкрыць вентыляцыйны люк — адчынілі клетку і ўдарылі па галаве дручком. Аднаму хлопцу было вельмі дрэнна, ён ванітаваў. Карацей, у аўтазаку было пекла», — кажа Дзмітрый.

Аўтазак недзе спыніўся, частку людзей выгрузілі. Другую частку адвезлі ў Заводскае РУУС. Там Дзмітрыю стала вельмі кепска, ён задыхаўся, было млосна, галава кружылася. Папрасіў выклікаць «хуткую», але міліцыянты адмовіліся. Усіх затрыманых — чалавек 60 — завялі ў актавую залу, складалі пратаколы, адкатвалі пальцы. Дзмітрый адмовіўся, яму зноў стала зусім кепска.

«Мяне вывеў малады хлопец гадоў 20, вельмі ветлівы, са мной ён размаўляў на "вы". Ён кажа: я выклічу "хуткую", скажу, што вы страцілі прытомнасць. Нарэшце выклікаў. І суправаджаў мяне ў гэтай "хуткай" разам з нейкім "адмарожаным" участковым, які браў паказанні. Ён яшчэ здзекаваўся з магілёўскай дзяўчыны, пагражаў згвалтаваннем. Фэльчар "хуткай" сказала, што забірае нас дваіх — мяне і хлопца, якому вельмі дрэнна было ў аўтазаку», — кажа Дзмітрый.

«Мяне доўга вазілі на ўсялякія абследаванні. У выніку толькі а 3 гадзіне ночы мяне шпіталізавалі ў 2-е траўматалагічнае аддзяленне. І супрацоўнікі міліцыі сышлі, мабыць, падумалі, што сваімі нагамі я не ўцяку, бо мяне давезлі на каталцы да палаты».

У заключэнні медыкаў пазначаны дыягназ: страсенне галаўнога мозгу, чэрапна-мазгавая траўма, удар у грудную клетку, пашкоджанне левага надпятавічнагалёнкавага суставу.

У палаце, куды паклалі Дзмітрыя, таксама былі затрыманыя і моцна збітыя на маршы.

«Раніцай пачалі хадзіць людзі са Следчага камітэту. У кагосьці ў палаце быў тэлефон. Я пазваніў сябрам і праваабаронцам і папрасіў, каб мяне тэрмінова забралі са шпіталю.

Карацей, не буду распавядаць пра ўсе падрабязнасці, але мяне вывезлі ў бок Літвы. Візы не было, але ініцыятыва ByHelp дапамагла. Беларускім памежнікам сказаў, што еду на лячэнне ў Літву. Пазней мне перадала крыніца са Следчага камітэта, што мяне будуць шукаць. Вяртацца ў Беларусь мне нельга — мяне нібыта расшукваюць па крымінальнай справе як сведку. Але я ж разумею, чым гэта можа скончыцца», — мяркуе Дзмітрый.

У Літве ён падаў дакументы на атрыманне статусу ўцекача. Яму дапамаглі зняць пакой, падрыхтаваць дакументы, забяспечылі ўсім неабходным.

«Такая салідарнасць і дапамога ад усіх, што ў мяне няма адчування, нібы я тут адзін далёка ад дому. Я быў прыемна здзіўлены і вельмі ўдзячны ўсім, хто мне дапамагае. Гэта ініцыятывы ByHelp, "Разам", "Дапамога", "Чырвоны Крыж".

А самае галоўнае — тут не трэба азірацца і шарахацца ад кожнага бусіка», — кажа Дзмітрый Хацкоў.

# Прыгажуня і пачвара

## Ад 8 лістапада «Міс Беларусі» Вольгу Хіжынкову трымаюць на Акрэсціна

Сяргей КАЙКО

**«Міс Беларусі–2008», былая прэс-сакратарка брэсцкага «Дынама», мужная дзяўчына і — цяпер ужо дакладна — адзін з сімвалаў беларускага пратэсту–2020.**

### 8.11.2020

Яе затрымалі акурат у дзень нядзельнага маршу. Тады пратэстоўцы збіраліся яшчэ ў цэнтры Мінска, хоць сілавікі прыкладалі ўсё больш намаганняў, рэсурсаў і жорсткасці, каб выцісцуць дзясяткі тысяч беларусаў з сэрца сталіцы, ад стэлы, з Нямігі і праспекта Пераможцаў.

Ужо тады гэтую лакацыю загадзя, амаль ад ранку, бралі ў аблогу характэрныя бусікі ды аўтазакі з закратаванымі вокнамі-байніцамі, а людзі ў балаклавах маглі затрымаць на пустэльных вуліцах любога, за каго чапляўся позірк. За Вольгу з яе мадэльнай знешнасцю не зачапіцца было цяжка.

Расказваюць, яе не збянтэжыла чорнае мноства невядомых паблізу плошчы Свабоды. Яна спакойна ішла, кіруючыся ў бок Палаца спорту, і несла ў руках букет. Тлумачэнне, што кветкі прызначаныя сяброўцы з нагоды дня нараджэння, не зрабілі належнага ўражання на амапаўцаў, і дадому ў той дзень Вольга не вярнулася.

На судзе яна віну не прызнала. Таямнічы сведка з закрытым тварам — і з пратакольным прозвішчам Вадалазаў — блытаўся ў паказаннях, імкнучыся распавесці пра падрабязнасці затрымання. Казаў пра абвінавачаную, што добра яе запомніў, бо «прыгожая дзяўчына». Канвеер рыпнуў, але збою не даў. Пасля дапрацоўкі суддзя абвясціў — 12 сутак адміністрацыйнага арышту па «народным» артыкуле 23.34.

У адрозненне ад многіх, яна ніколі не хавала, што ўдзельнічае ў акцыях пратэсту. Ледзьве не кожную нядзелю, вечарам, у яе сацсетках з'яўляліся характэрныя фота. Тут яна на праспекце з бел-чырвона-белым сцягам, тут крочыць у шэсці з бел-чырвона-белымі кветкамі, тут стаіць побач з ланцугом салідарнасці ў мікраёне Лебязіны. Яна мусіла разумець, што гэтыя візуальныя сведчанні могуць мець кепскія наступствы, бо з кожным новым тыднем рэпрэсіі няўхільна нарасталі. Але і інакш рабіць не магла.

Так урэшце і адбылося. Сістэма не змагла дараваць зняволенай яе рашучасці і прыгожага, дэманстрацыйнага пратэсту. Да пачатковых 12 сутак цягам часу дадаліся яшчэ 15 сутак, затым яшчэ... Новыя тэрміны Вольга Хіжынкова атрымлівала «без адрыву ад вытворчасці» — бязвылазна седзячы там, куды яе завезлі ў першы ж дзень пасля арышту. На славутым Акрэсціна — тым самым пенітэнцыярным «пансіёне», што так сумна праславіў Беларусь на ўвесь белы свет.





### 15.09.2020

Яшчэ зусім нядаўна яе жыццё было ўладкаванае на ўсе сто. Сям'я, кватэра, цікавая праца. Шмат працы. Прэс-сакратарка брэсцкага «Дынама», педагог у Нацыянальнай школе прыгажосці, рэкламныя кантракты з вядомымі брэндамі. Каб яшчэ мандат дэпутаткі, як у некаторых іншых «Міс Беларусі», то пазайздросціць такой запатрабаванасці магла ці не кожная беларуска, якую не спакушае роля хатняй гаспадыні.

Пра дэпутацтва, зразумела, жарт. Гэткай дэкаратыўнай функцыі Вольга б яўна цуралася, і цяпер мы ведаем, чаму. Ёй даспадобы грамадская актыўнасць іншага кшталту — і ў сваім векавечным цэйтноце яна знаходзіла час і на яе. Шануючы здаровы лад жыцця, бесперапынна бегала свае марафоны ў розных гарадах Беларусі і Еўропы. Маючы тонкую натуру, дапамагала бяздомным жывёлам — сабакам ды катам, — якім давала прытулак і для якіх знаходзіла новых гаспадароў. Спагадлівая ва ўсім і да ўсяго, удзельнічала ў шматлікіх дабрачынных праектах, падтрымліваючы то абнядоленых дзяцей, то безабаронных інвалідаў.

Здавалася, што так будзе заўсёды, бо ў тым, папярэднім, сусвеце дарогу асільваў актыўны, надзейны і сумленны. Аднак затым дэкарацыі змяніліся — прыйшоў час не надзейных, а добранадзейных. Краіну апанавала рэальнасць, месца ў якой рэзервуецца нібыта па спецпропусках.

Сваю апошнюю працу Вольга страціла 15 верасня. Сышла з Нацыянальнай школы прыгажосці. Пракаментавала прадказальна: «Мне далі зразумець: альбо я маўчу і нічога не публікую ў сацсетках, альбо прыйдзецца развітацца». І дадала: «Мой выбар быў відавочны».

З брэсцкага «Дынама» яна сышла раней — на пачатку сакавіка, калі большасці беларусаў яшчэ спрытна ўдавалася заставацца па-за палітыкай. Тое «футбольнае» звальненне не выглядала форс-мажорам, бо Брэсту прэс-сакратар Хіжынкова і так аддала тры з паловай сезоны, цягам якіх каманда выйграла ў краіне ўсё, што можна. Вольга бясконца маталася туды-сюды па даўжэзнай магістралі М1 за 350 кіламетраў — не кожнаму хопіць моцы вось так з года ў год.

Той свой сыход яна ніяк не каментавала, не маючы моды кідаць камяні хоць у чыйсьці агарод. Аднак нешта падказвае, што грамадзянскі падтэкст у таго рашэння калі не быў, то мог быць. Бо наўрад ці яе ўзрадавала і надало імпэту лістападаўскае трыумфаванне клуба з нагоды чэмпіёнства, калі футбалістаў з тытулам віншаваў Віктар Лукашэнка, дорачы адмысловую «прэзідэнцкую гарэлку», якая «нідзе не прадаецца».

Так ці інакш, высноўа простая: праз год на «суткі» Вольга Хіжынкова сядзе ў тыповым статусе «беспрацоўнай дармаедкі». Як і тысячы іншых беларусаў.

### 25.10.2016

З Вольгай мы пазнаёміліся менавіта праз футбол. Яна была вельмі прыкметнай у саслоўі прэс-сакратароў вышэйшай лігі — як прыкметным было і яе «Дынама», што ўжо тады, чатыры гады таму, напіхвалі грашыма бізнесоўца Зайцава дзеля высокіх мэтаў. Рэдактару «Прэсбола» трэба было мець шчыльны кантакт з такімі ньюсмейкерамі, і выхад на «Міс Беларусь» выглядаў непазбежным.

Вольга аказалася на дзіва простым і адкрытым суразмоўцам, і ўжо даволі хутка мы з ёй ехалі ў Брэст з важнай інфармацыйнай нагоды — адкрыцця дзіцяча-юнацкай акадэміі «Дынама». На той час клубу было ўласціва ладзіць такія імпрэзы з шыкам, таму прэстыжны гатэль «Эрмітаж» поўніўся пазнавальнай маскоўскай гаворкай. І неўзабаве мы ўжо сядзелі на скураной канапе з зорным футбалістам-трэнерам Валерыем Карпіным і ладзілі вялікае інтэрв'ю. Ішоў кастрычнік 2016-га — і тыя крокі былі ці не першымі для Вольгі ў беларускім футболе.

Яна ўмела дамаўляцца, звязваць вузлы і зводзіць масты — важная якасць пры няпростай пасярэдніцкай камунікацыі. Артадаксальная футбольная супольнасць на пачатку сустрэла яе насцярожана — жанчына, дый такая багемная, з іншай планеты, яна ж і мяч ад морквы не адрозніць. Аднак вельмі хутка акцэнты змясціліся, і журналісты нарадавацца не маглі на прэс-сакратарку самага заможнага і, як вынік, ганарлівага клуба краіны.

Калі ты прасіў інтэрв'ю з якімсьці гульцом, то адразу ведаў — Хіжынкова зробіць. Ды так, што нават паспееш адчуць — яна ўвогуле нібыта на тваім баку. І дастане любога, нават самага занятага ці фанабэрыстага футбаліста, бо на тым канцы прэса, якую трэба паважаць. А калі не дастане, што зрэдку ўсё ж здаралася, то абавязкова выбачыцца з непадробным жалем у голасе. Выпускніца журфака і ўраджэнка вёскі Забароўе Лепельскага раёна, яна не адарвалася ад зямлі, калі аднойчы аказалася ў прамянях славы.

У тым жа «Дынама» гэта таксама цанілі — і гульцы, і трэнеры. Калі напаўзуць хмары і ляснуць жалезныя дзверы, да высокіх акрэсцінскіх сцен, каб падтрымаць сваю былую прэс-сакратарку, прыйдуць і Васіль Хамутоўскі, і Павел Няхайчык, і Алег Верацiла. Скрозь экс-футбалісты зборнай, а для яе — колішнія падапечныя, з якімі некалі прыйшлося нянчыцца ў пыхлівым Брэсце.

### 11.12.2020

Тыдзень таму каля ізалятара на Акрэсціна сабралася шмат людзей — журналісты, родныя і блізкія, простыя неабыякавыя беларусы. Былі кветкі, падарункі і адчуванне еднасці. Чакалася, што ў гэты дзень Вольгу нарэшце вызваляць. Не вызвалілі. Выйшлі людзі ў пагонах і сказалі, як адрэзалі: «Яна сёння не выйдзе. Можаце разыходзіцца».

Што? Чаму? Адказы на ўдакладняючыя пытанні беларусам ведаць не абавязкова.

Муж Вольгі Іван засмуціўся і не хаваў расчаравання. Казаў, што вельмі хацеў сустрэць жонку, абняць і нарэшце адвесці дадому. Думаў: колькі ёй яшчэ сядзець там, у тых жудасных умовах?

Пра ўмовы журналістам ужо даўно распавялі былыя сукамерніцы знакамітай акрэсцінскай арыштанткі. Ну што, гэта Беларусь, дзетка. Суседзі без пэўнага месцажыхарства з вашыма, непрацуючы зліў ва ўнітазе, скразнякі праз дзіравае акно, рэгулярныя і прыніжальныя «шмоны» ў камеры.

Еўрапейскія стандарты такі «сэрвіс» трактуюць адназначна — катаванні. Але ў Беларусі гэта норма стабільнага і квітнеючага жыцця. Скажы яшчэ дзякуй, што перадачу не завярнулі. Альбо не канфіскавалі паліто, якім ты накрываешся, каб ноччу не здубянець.

### 20.12.2020

Менавіта гэтую дату называюць у тэлеграм-каналах, абмяркоўваючы дзень, калі Вольга ўсё ж выйдзе на волю. Але гэта, як модна казаць, недакладна.

Магчыма, усё здарыцца раней — і нават да выхаду гэтага нумару НЧ. Магчыма, адбудзецца пазней — ад тых, хто сёння пачкамі кідае беларусаў у камеры, чакаць можна ўсялякага. Уключаючы тое, што прыгажуня Хіжынкова ўслед за сваім днём нараджэння сустрэне на Акрэсціна і Новы год.

На момант, калі пішуцца гэтыя радкі, канчатковай інфармацыі няма, што таксама з'яўляецца красамоўнай прыкметай сённяшняй беларускай рэчаіснасці. Той самай, ад якой пяты месяц шалее навакольны свет і якая — такі наш дыялектычны аптымізм — проста не можа існаваць доўга.

Не можа — бо не павінны такія, як Вольга, сядзець за кратамі, а прыгажосць выратуе Беларусь і абавязкова пераможа.

**Фота: Instagram Вольгі Хіжынковай**

# Спецрасследаванне: што

**Частка II**

Дзяніс ІВАШЫН

**Працягваем раскрываць новую інфармацыю пра экс-байцоў расфарміраванага ўкраінскага спецпадраздзялення «Беркут» на службе па абароне дыктатуры ў Расіі і Беларусі.**



**Уладзімір Дзідык пазначаны колам. Леваруч і праваруч яго — фігуранты папярэдняга расследавання, мінскія амапаўцы — Сяргей Панасенка і Мікалай Стагарняк**

У другой частцы геаграфія расследавання значна пашыраецца. Мы падаем звесткі, датычныя выяўлення экс-байцоў спецпадраздзялення «Беркут» не толькі ў Мінску, але і ў іншым рэгіёне Беларусі. Упершыню ў межах расследавання надаём інфармацыю пра адшуканне ў шэрагах мінскага АМАПу колішняга «беркутаўца» з адэскага батальёна гэтага падраздзялення.

## Не толькі Мінск

У выніку вывучэння акаўнтаў сацсетак фігуранта першай часткі гэтага расследавання Дзмітрыя Анцупава на тэрыторыі Беларусі выяўлены ягоны таварыш па службе, баец мікалаеўскага спецпадраздзялення «Беркут» Уладзімір Дзідык. У спісе сяброў свайго акаўнту «ОК» Анцупаў пазначыў Дзідыка менавіта ў якасці свайго калегі.



**Дзідык Уладзімір Уладзіміравіч (па-ўкраінску — Дідик Володимир Володимирович)**

Нарадзіўся 03.08.1988 года ў вёсцы Антонаўка Новаадэскага раёна Мікалаеўскай вобласці, УССР. Скончыў Мікалаеўскі політэхнічны тэхнікум. Пасля праходжання тэрміновай вайсковай службы быў прыняты ў роту міліцыі асаблівага прызначэння (РМАП) «Беркут» пры УМУС Украіны ў Мікалаеўскай вобласці. Пасля перамогі Рэвалюцыі Годнасці ўцёк разам са сваёй сям'ёй у Беларусь. Меркавана, служыць у АМАП УУС Гомельскага аблвыканкама.

Ідэнтыфікаваны і апазнаны на супольных фотаздымках са сваімі таварышамі па службе з мікалаеўскага «Беркута».

Паводле зафіксаваных на фота пагонаў, Уладзімір Дзідык на момант, калі было зроблена гэта фота, меў званне сяржанта міліцыі.

Дзідык таксама выяўлены на фотаздымку з вяселля байца мікалаеўскага «Беркута» Арцёма Мельнічэнкі, які ў 2017 годзе звольніўся са службы ў праваахоўных органах.

У адрозненне ад большасці збеглых у Беларусь экс-байцоў мікалаеўскага «Беркута», Дзідык жыве не ў сталічным рэгіёне, а ў Гомелі.

Падчас выведкі адкрытых крыніцаў інфармацыі імя Уладзіміра Дзідыка было выяўлена ў агульным спісе грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў у Чыгуначным раёне Гомеля.

Паводле рашэння адміністрацыі гэтага раёна, 06.06.2017 года ён быў афіцыйна пастаўлены ў агульную чаргу. З дапамогаю анлайн-сэрвісу Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта высветлена, што станам на ліпень 2020 года Уладзімір Дзідык займаў у чарзе на жытло пазіцыю № 14370.

Атрыманая афіцыйная інфармацыя дадаткова пацвярджае сапраўднасць даты нараджэння фігуранта расследавання.

Умовамі пастаноўкі ў чаргу на жытло прадугледжаная штогадовая верыфікацыя — пацвярджэнне статусу ў мясцовым раённым органе ўлады паводле месца рэгістрацыі. Цікава, што адміністрацыя Чыгуначнага раёна Гомеля змясціла для выкарыстання ў адкрытым доступе нават поўны адрас месца жыхарства колішняга «беркутаўца» ў адным з інтэрнатаў КЖРЭУП «Сельмашаўскае».

Згодна з беларускім заканадаўствам, грамадзяне, якія маюць адрас рэгістрацыі ў інтэрнаце і стаяць у чарзе на жытло, павінны фактычна пражываць па месцы рэгістрацыі. Мясцовы выканкам для гэтага збірае нават пісьмовыя сведчанні суседзяў ці загадчыка інтэрната. То-бок, як мінімум з 2017 года да нядаўняга часу Уладзімір Дзідык пражываў менавіта на тэрыторыі Чыгуначнага раёна Гомеля.

Цікава, што ўвосень 2020 года Дзідык быў зняты з агульнай чаргі. Найбольш верагодная прычына — атрыманне жытла па месцы працы. Заканадаўствам дазваляецца аднachасова стаяць у чарзе на жытло як паводле месца жыхарства, гэтак і па месцы працы. Да таго ж супрацоўнікі МУС маюць першачарговае права на атрыманне арэнднага жытла. Таксама вядома, што цягам 5–7 гадоў службы ў АМАПе байцы атрадаў забяспечваюцца асобным жытлом.

Менавіта з Уладзімірам Дзідыкам можа быць звязаная гісторыя, якая адбылася ў Гомелі з украінскім мігрантам Яўгенам Кірычэнкам, які ў 2014 годзе праз пагрозу наступу расійскіх падраздзяленняў вывез сваю сям'ю з Данецкай вобласці ў Беларусь.



**Яўген Кірычэнка. Фота з акаўнту ў FB**

Увечары 11 жніўня 2020 года ў цэнтры Гомеля Кірычэнка быў затрыманы нібыта як «удзельнік пратэстаў» адным з байцоў гомельскага АМАПу і змешчаны ў службовы мікрааўтобус «Газель». Пасля таго, як ён паведаміў, што з'яўляецца ўкраінцам, яго пераселі ў аўтазак, у якім знаходзіліся 8–10 чалавек у чорнай форме і без знакаў адрознення.

Паводле словаў Кірычэнкі, яго абражалі і дапытвалі, колькі яму заплацілі і хто яго каардынатар. Кірычэнку павалілі на падлогу і пачалі жорстка збіваць. Адзін з амапаўцаў запытаў: «Так может, это ты, падла, жёг меня на Майдане?» Пасля здзекаў яго зноў перавялі ў «Газель» і завезлі ў РАУС Цэнтральнага раёна Гомеля, дзе катаванні працягнуліся. Паводле судовага рашэння, Кірычэнка яшчэ некалькі дзён пасля гэтага правёў у ізалятары часовага ўтрымання.

Нягледзячы на абскарджванне пастановы суда, праходжанне судмедэкспертызы, ініцыяванай СК па факце збіцця супрацоўнікамі міліцыі, Кірычэнку выклікалі ва ўпраўленне па грамадзянстве і міграцыі. Адтуль ён зноў патрапіў у ІЧУ. Пасля 14 дзён утрымання яго дэпартавалі з Беларусі з забаронай на ўезд цягам наступных трох гадоў.

Для таго, каб высветліць, ці не з'яўляецца Уладзімір Дзідык і амапавец, што запытваў Яўгена Кірычэнку пра Майдан у аўтазаку, адной і той жа асобаю, аўтар гэтага расследавання звязаўся з Яўгенам. Паводле яго сведчанняў, у аўтазак змяшчалі затрыманых менавіта дзеля збіцця.

Кірычэнка запэўніў, што не бачыў абліччаў байцоў АМАПа ў аўтазаку, бо на іх былі балаклавы, а на некаторых шаломы. Апроч гэтага, яму не дазвалялі глядзець у іх бок, таму ён не можа апазнаць гэтага амапаўца.

Калі чытачы маюць дадатковую інфармацыю, просьба паведаміць яе рэдакцыі альбо аўтару расследавання. Ананімнасць гарантуецца.

## «Ах, Одесса, жемчужина у моря»

У шэрагах мінскага АМАПа выяўлены яшчэ адзін баец расфарміраванага ўкраінскага спецпадраздзялення «Беркут» Сяргей Кімінчыжы. Вызначана, што ён з'яўляецца экс-байцом асобнага батальёна міліцыі асаблівага прызначэння (БМАП) гэтага падраздзялення, якое дыслакавалася ў Адэсе. Гэта першы выпадак выяўлення сярод супрацоўнікаў беларускай міліцыі адэскага «беркутаўца».



**Кімінчыжы Сяргей Пятровіч (па-ўкраінску — Кімінчижи Сергій Петрович)**

Нарадзіўся 04.08.1983 года ў вёсцы Васыліўка Балградскага раёна Адэскай вобласці, УССР. Пражываў у вёсцы Выгода Біляіўскага раёна той жа вобласці. Пасля дэмабілізацыі з арміі быў прыняты на службу ў БМАП «Беркут» пры Галоўным упраўленні МУС Украіны ў Адэскай вобласці. Пасля перамогі Рэвалюцыі Годнасці ўцёк у Беларусь. Рэжым Лукашэнкі надаў яму грамадзянства і службу ў шэрагах АМАП ГУУС Мінскага гарвыканкаму.

У выніку паглыбленай выведкі адкрытых крыніцаў інфармацыі (OSINT) Сяргей Кімінчыжы выяўлены сярод байцоў «Беркута», якія ўдзельнічалі ў выязным «Дні адкрытых дзвярэй» для гадаванцаў адэскага дзіцячага аздараўленчага лагера імя Юрыя Гагарына Узброеных сілаў Украіны.

Мерапрыемства было арганізавана напачатку жніўня 2013 года аддзелам крымінальнай міліцыі па справах дзяцей Галоўнага ўпраўлення МУС Украіны ў Адэскай вобласці. Апроч «беркутаўцаў» былі запрошаныя і супрацоўнікі Кіналагічнага цэнтру гэтага ўпраўлення. Кімінчыжы зафіксаваны не толькі падчас паказальнага выступу байцоў свайго падраздзялення з дэманстрацыяй асноўных прыёмаў рукапашнага бою, але таксама падчас паказу адзінак узбраення і спецыяльных сродкаў, што меліся на ўзбраенні «Беркута».



**Сяргей Кімінчыжы дэманструе помпавае ружжо 12-га калібру «Форт-500». З гэтай штатнай зброі «беркутаўцаў» былі забітыя шматлікія ўдзельнікі Рэвалюцыі Годнасці, у тым ліку Міхась Жызнеўскі.** Фота odessitua.com

З фотаздымкаў вынікае, што Кімінчыжы мае крапавы берэт — прадмет выключнага гонару сярод байцоў спецпадраздзяленняў, які надаецца ў выніку праходжання складаных кваліфікацыйных выпрабаванняў.

Вядома, што падчас падзеяў Рэвалюцыі Годнасці 19 лютага 2014 года байцы адэскага «Беркута» прарваліся праз ачапленне, выстаўленае адэскімі грамадскімі актывістамі ля месца дыслакацыі гэтага спецпадраздзялення, і выехалі ў Кіеў на двух аўтобусах. Ужо 21 лютага дэпутат Анатоль Грыцэнка суправаджаў падраздзяленні «Беркута», у тым ліку з Адэскай вобласці, падчас іх выезду з Кіева. Адэскія «беркутаўцы» непасрэдна ўдзельнічалі ў падзеях 20 лютага 2014 года ў Кіеве, адзін з іх нават быў паранены на вуліцы Інстытуцкай.

Са службай Сяргея Кімінчыжы ў мінскім АМАПе звязаная адразу некалькі інцыдэнтаў па затрыманнях і судовым пераследзе беларускіх грамадскіх актывістаў.

З красавіка 2018 года ў Мінску быў затрыманы вядомы беларускі анархіст Вячаслаў Касінераў. Днём раней ён удзельнічаў у пікеце з патрабаваннямі дэкрыміналізаваць лёгкія наркотыкі ў малых дозах і ўхваліць адпаведныя змены ў адзін з самых рэпрэсіўных крымінальных артыкулаў Беларусі №328 «Незаконнае абарачэнне наркатычных сродкаў».

# абараняе «Беркут» у Беларусі



**Вячаслаў Касінераў.** Фота з акаўнту ў FB

Як засведчыла жонка Вячаслава Касінерава Марына Насенка, затрыманне адбылося проста на вуліцы. Яго здзейснілі супрацоўнік Маскоўскага РУУС Мінска і два байцы АМАПу, якія былі ў цывільнай вопратцы. Адзін з іх тады не прадставіўся, а іншы, паводле дакументаў, меў прозвішча Кімінчыжы. Група захопу пасадзіла Касінерава ў мікрааўтобус, які з самага ранку быў пад вокнамі яго кватэры. На наступны дзень, 4 красавіка, Касінераў быў пакараны адміністрацыйным штрафам паводле не менш рэпрэсіўнага артыкула 23.34 КаАП РБ.

Другі інцыдэнт звязаны з разглядам адміністрацыйнай справы 10 студзеня 2020 года ў судзе Савецкага раёна Мінска ў дачыненні да Сяргея Папкова — намесніка старшыні КХП-БНФ і БНФ «Адраджэньне». Падчас судовага пасяджэння Сяргей Кімінчыжы і іншы сведка-амапавец, Віктар Мартынчык, далі паказанні, згодна з якімі Папкоў нібыта выкрыкваў лозунгі і парушаў грамадскі парадак 21 снежня 2019 года на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску. У той дзень адбывалася адна з шэрагу акцый у падтрымку незалежнасці Беларусі.

Нягледзячы на тое, што Папкоў цалкам давёў суду, што ён не рабіў дзеянняў, у якіх яго абвінавачвалі, судовы вердыкт быў ухвалены на грунце сведчанняў амапаўцаў, у тым ліку Сяргея Кімінчыжы. У выніку Папкова асудзілі да 20 базавых велічыняў (540 рублёў) адміністрацыйнага штрафу.

У матэрыялах адміністрацыйнай справы маецца пратакол апытання Сяргея Кімінчыжы.

Гэты дакумент не толькі цалкам пацвярджае вызначаныя падчас расследавання яго поўнае імя, дату і месца нараджэння ў Адэскай вобласці, але і факталагічна сведчыць пра яго службу ў мінскім АМАПе.

Наступны, вельмі гучны інцыдэнт з удзелам Сяргея Кімінчыжы, датычны яго ўдзелу ў затрыманні «дыджэяў пераменаў» — Кірыла Галанава і Уладзіслава Сакалоўскага. Падчас судовага працэсу над імі Кімінчыжы зноў фігуруе ў якасці сведкі і дае паказанні.

6 жніўня 2020 года мінскія ўлады вырашылі правесці ў Кіеўскім скверы, адной з дазволеных пляцовак для агітацыі, Дзень адкрытых дзвярэй установы дадатковай адукацыі «Калейдаскоп мастацтва». У той жа дзень у парку Дружбы народаў павінна была адбыцца папярэдне анансаваная сустрэча з выбарнікамі Святланы Ціханоўскай. Аднак праз наўмыснае правядзенне там уладамі яшчэ аднаго культурна-масавага мерапрыемства, Святлана Ціханоўская заклікала ўсіх прыходзіць менавіта ў Кіеўскі сквер. У ім сабраліся тысячы працаўнікаў рэжыму Лукашэнкі. Гукааператары Кірыл Галанаў і Уладзіслаў Сакалоўскі, якія адказвалі за музычную праграму дзяржаўнага мерапрыемства, уключылі на знак падтрымкі пратэстоўцаў песню «Перемен» гурта «Кино». У гэты ж дзень пазней яны былі затрыманыя.

Кімінчыжы засведчыў, што ён асабіста і яшчэ адзін амапавец, Руслан Кавальчук, здзейснялі пошук, праслед і затрыманне Галанава і Сакалоўскага, якія пры гэтым, паводле яго словаў, правялі непадпарадкаванне. Згодна са сведчаннямі Кімінчыжы і Кавальчука, падчас затрымання яны былі ў цывільным, а затрыманых змясцілі ў аўтамабіль Volkswagen Transporter і даставілі потым у Цэнтральнае РУУС Мінска.



Байцы АМАПа Сяргей Кімінчыжы (леваруч) і Руслан Кавальчук (праваруч) затрымліваюць «дыджэяў пераменаў», 06.08.2020 года, Мінск. Кадр з відэа Telegram-каналу «Нехта»

На падставе гэтых ды іншых сведчанняў, Галанава і Сакалоўскага за нібыта здзейсненае імі дробнае хуліганства і непадпарадкаванне міліцыі пакаралі ў сукупнасці 10 суткамі адміністрацыйнага арышту.

У пастанове справы пра адміністрацыйнае правапарушэнне №6-2342/2343/2020 у дачыненні да Кірыла Галанава маецца не толькі дадатковае дакументальнае пацвярджэнне службы экс-байца «Беркута» Сяргея Кімінчыжы ў мінскім АМАПе, але і пададзеныя яго пасада і нават званне.

Як вынікае з дакумента, Сяргей Кімінчыжы з'яўляецца камандзірам групы АМАП ГУУС Мінскага гарвыканкама, мае званне капітана міліцыі.

Што ж стала асноўным матывам Кімінчыжы для раптоўных уцёкаў з Украіны ў Беларусь?

Святло на гэта можа праліць яго ўласны акаўнт у сацсетцы «VK», які проста перанасычаны інфармацыйным прадуктам расійскай прапаганды. Тут і актыўныя рэпосты не толькі «Антимайдана», але і сепаратысцкіх паблікаў, створаных у межах гібрыднай ваеннай агрэсіі Расіі супраць Украіны: «Комитет Освобождения Одессы — Антимайдан», «Народная Дружина Одессы (Антимайдан) НД», «Вежливые люди, Армия, Россия».

Напрыканцы чэрвеня 2014 года Сяргей Кімінчыжы зрабіў рэпост з заклікам да супрацоўнікаў МУС і вайскоўцаў Нацыянальнай Гвардыі Украіны не ўдзельнічаць у баявых дзеяннях у Данбасе, то-бок, па-сутнасці, не здзяйсняць супраціў расійскай ваеннай агрэсіі.

Праводзіць расследаванне дзейнасці Сяргея Кімінчыжы як прадстаўніка каманднага складу адэскага падраздзялення «Беркут» падчас падзеяў вясны 2014 года ў Адэсе маюць кампетэнцыю следчыя органы Украіны. Да таго ж, яны могуць аб'яднаць гэтае расследаванне са справай яго непасрэднага начальніка — Дзмітрыя Фучэджы.

Увесну 2014 года Дзмітрый Фучэджы з'яўляўся намеснікам начальніка адэскай абласной міліцыі і ачольваў міліцыю грамадскай бяспекі. Ён быў адхілены са сваёй пасады праз падазрэнне ў супрацы з баевікамі «Антимайдана», якія справаквалі крывавыя падзеі 2 траўня ў Адэсе, у выніку якіх загінулі 48 чалавек. Хаваючыся ад следства, Фучэджы ўцёк на падкантрольную Расіі тэрыторыю так званай Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспублікі. Быў абвешчаны ў вышук МУС Украіны. Расійская Федэрацыя надала Фучэджы грамадзянства і адмовіла ў экстрадыцыі па запатрабаванні ўкраінскага боку.

Менавіта падтрымка (пра)расійсіх сілаў і пачатак іх разгрому ва Украіне маглі стаць таксама і для Кімінчыжы асноўнай прычынай раптоўнага пакідання сваіх родных ды блізкіх, знішчэння сваёй шматгадовай кар'еры ў сілавых структурах Украіны і ўцёкаў у чужую для яго Беларусь.

Калабарацыя байцоў «Беркута» падчас актыўнай фазы гібрыднай расійскай агрэсіі супраць Украіны мела масавы характар. Асабліва выразна гэта праявілася на тэрыторыі Крыма і Данбаса.

## Часова акупаваны Крым

Сярод кантактаў у стужцы многіх сябраў мікалаеўскіх «беркутаўцаў» маецца акаўнт іх таварыша па службе Аляксандра Біткова. Фігурант папярэдняга расследавання Сяргей Гаўрыляк нават пазначыў яго ў якасці свайго калегі. Менавіта ў выніку сведчанняў Біткова, які цяпер хаваецца на тэрыторыі акупаванага Крыма, вынікае, што мікалаеўскі «Беркут» прымаў вельмі актыўны ўдзел у наўпроставых боесутыкненнях з абаронцамі Майдана, у спробах яго гвалтоўнага штурму і задушэння Рэвалюцыі. Гэтыя сведчанні вельмі каштоўныя, бо таксама тлумачаць асноўную матывацыю ўцёкаў «беркутаўцаў».



Бітокоў Аляксандар Сяргеевіч (па-ўкраінску — Бітков Олександр Сергійович)

Нарадзіўся 09.12.1985 года ў вёсцы Міхайлаўка Ніжнягорскага раёна Крымскай вобласці, УССР. Пражываў у вёсцы Мірная Вітаўскага (да 2016 года – Жаўтневага) раёна, непадалёк ад Мікалаева. Пасля праходжання тэрміновай вайсковай службы быў прыняты у РМАП «Беркут» пры УМУС Украіны ў Мікалаеўскай вобласці.

Яго акаўнт сацсеткі «VK» проста стракаціць допісамі, датычнымі тэматыкі практычнай стральбы. Не выключана, што ў мікалаеўскім падраздзяленні ён меў пасаду стралка-снайпера.

У лістападзе 2013 года Біткоў у складзе мікалаеўскай роты «Беркута» быў перакінуты ў Кіеў. Пасля перамогі Рэвалюцыі Годнасці ўцёк на тэрыторыю часова акупаванага Крыма.

Да нядаўняга часу Біткоў знаходзіўся ў Севастопалі. Меркавана, служыць у АМАП «Беркут» Галоўнага ўпраўлення Федэральнай службы войскаў нацыянальнай гвардыі («Росгвардия») МУС РФ па так званай Рэспубліцы Крым.

Увесну 2014 года Біткоў удзельнічаў у якасці героя некалькіх тэлевізійных перадач расійскай прапаганды — чарговых прадуктаў інфармацыйнай вайны РФ супраць Украіны.

Адна з іх — аўтарская праграма «Русский вопрос» Канстанціна Затуліна, кіраўніка Інстытута краін СНД і аднаго з архітэктараў так званай «Русской весны», спецаперацыі расійскай гібрыднай вайны супраць Украіны ў 2014 годзе. Паводле сведчанняў Біткова, мікалаеўскае падраздзяленне «Беркута» ўдзельнічала практычна ва ўсіх сутыкненнях на Майдане. Ён падрабязна распавядае нават пра сваё раненне нібыта ад агнястрэльнай зброі, хаця ў медычных дыягназах, паводле яго ж слоў, ён зазнаў траўму ад удару палкай ці каменем.

Менавіта Затулін, Глазьеў і Ткачук фігуруюць у перахопленых і апублікаваных Генеральнай пракуратурай Украіны перамовах па каардынацыі дзейнасці (пра)расійскіх баевікоў на тэрыторыі Украіны ў межах правядзення спецаперацыі «Русская весна».

Аляксандр Біткоў быў запрошаны для ўдзелу і ў прапагандысцкім ток-шоу «Прямой эфир» на дзяржаўным тэлеканале «Россия 1», дзе ён засведчыў пра захоп яго падраздзяленнем Жаўтневага палацу падчас жорсткіх сутыкненняў і штурму кіеўскага Майдану 18 лютага 2014 года.

З гэтых прызнанняў вынікае, што мікалаеўскае падраздзяленне было адным з самых актыўных у структуры «Беркута», які прыцягваўся для крывавага задушэння народных пратэстаў. Спробай пазбегчы адказнасці за свае дзеянні на Майдане можна цалкам патлумачыць і масавыя ўцёкі мікалаеўскіх «беркутаўцаў» у Беларусь, Расію і акупаваны Крым.

Вызначана, што на тэрыторыю Крыму пасля перамогі Рэвалюцыі Годнасці апроч Біткова выехаў яшчэ адзін мікалаеўскі «беркутавец» — Аляксандр Папоў.

Нарадзіўся 29.05.1989 года ў горадзе Ачакаў Мікалаеўскай вобласці, УССР. З 2007 па 2009 гады праходзіў тэрміновую вайсковую службу ў 79-й асобнай аэрамабільнай брыгадзе (в/ч А0224, псд — г. Мікалаеў).



Папоў Аляксандр Мікалаевіч (па-ўкраінску — Попов Олександр Миколайович)

Пасля дэмабілізацыі з войска прыняты на службу ў РМАП «Беркут» пры УМУС Украіны ў Мікалаеўскай вобласці. У лістападзе 2013 года ў складзе свайго падраздзялення перакінуты на ўзмацненне ў Кіеў. Пасля перамогі Рэвалюцыі Годнасці з'ехаў ва акупаваны Крым. Да нядаўняга часу перабываў разам з сям'ёю ў Севастопалі.

Апазнаны на супольным фотаздымку зводнага падраздзялення мікалаеўскага «Беркута», зробленага на вуліцы Грушэўскага ля Кабінету Міністраў Украіны падчас падзей Рэвалюцыі Годнасці.

На тэрыторыю Крыма ўцяклі і іншыя байцы мікалаеўскага «Беркута». Дзякуючы фігуранту папярэдняга расследавання Сяргею Гаўрыляку, вызначана, што адным з гэтых уцекачоў з'яўляецца Аляксандр Вяроўкін.



Вяроўкін Аляксандар Уладзіміравіч (па-ўкраінску — Верьовкін Олександр Володимирович)

Нарадзіўся 09.08.1990 года ў вёсцы Яўгенеўка Снігурыйскага раёна Мікалаўскай вобласці, УССР. Экс-баец мікалаеўскай роты спецпадраздзялення «Беркут». Апазнаны разам з Аляксандрам Бітковым на групавым фотаздымку «беркутаўцаў» у пункце сталай дыслакацыі мікалаеўскага падраздзялення.

Паводле сведчанняў Сяргея Гаўрыляка, таварыша па службе Аляксандра Вяроўкіна, апошні знаходзіцца на тэрыторыі акупаванага Крыма. Паводле пазначанага ім месца бягучага знаходжання і спісу падпісак на паблікі, месца яго меркаванага знаходжання — Севастопаль.

Пасля таго, як Крым быў акупаваны, Расія перафарміравала калабаранцкія падраздзяленні «Беркута» ў Крыме і ўключыла іх у склад расійскага АМАПу, а затым «Росгвардии».

На тэрыторыі Беларусі выяўленыя ўжо сем экс-байцоў «Беркута», дакументальна пацверджаная служба шасці з іх у атрадах АМАП МУС РБ. Гэтая лічба не толькі не канчатковая, але ў далейшым значна павялічыцца. У наступнай частцы мы пададзім крытычную інфармацыю, раскрыць якую дапамагло само Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі.

# «Я кожны дзень малюся за веліч Беларусі»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Алеся Чарняўская ў жніўні правяла трое сутак на Акрэсціна. Убачанае там да сёй пары адгукаецца ў ёй, але ў той жа час гэта стала вельмі моцнай матывацыяй дапамагаць іншым. Мы пагутарылі з Алесяй пра тое, чаму беларусам цяпер важна звяртацца да псіхолагаў, дзе браць сілы, каб жыць далей, і чаму мы абавязкова пераможам.**



Фота з асабістага архіва Алесі Чарняўскай

### «Наступствы цяперашняй сітуацыі мы яшчэ ўбачым»

Алеся мае дзве вышэйшыя адукацыі — педагагічную і юрыдычную, і ўжо амаль 10 гадоў працуе ў грамадскім аб'яднанні. Яна курыруе спецыялістаў, якія непасрэдна працуюць з сем'ямі, што аказваюцца ў крызіснай сітуацыі. Менавіта гэты досвед дапамог ёй не толькі захаваць сябе ў сітуацыі стрэсу падчас знаходжання ў ізалятары ў самыя страшныя паслявыбарчыя дні, але і дапамагаць іншым.

— Мне самой спатрэбілася дапамога, і мой стан, калі я цяпер кажу, што мне добра, — гэта вынік досыць доўгай і складанай працы з псіхатэрапеўтам, падтрымка сям'і і людзей, з якімі я працую і якія спрыялі, каб гэтыя наступствы, што ў такіх умовах натуральна з'явяцца ў кожнага чалавека, былі мінімізаваныя, — прызнаецца суразмоўца.

Алеся Чарняўская заклікае беларусаў не кідаць на самацёк свой псіхалагічны стан і звяртацца па прафесійную дапамогу. Яна тлумачыць: наступствы бываюць як у людзей, якія сталі ахвярамі гвалту, так і ў тых, хто назіраў гвалт. І яшчэ не вядома, для каго яны акажуцца цяжэйшымі, бо наступствы шокавай траўмы звыкла праяўляюцца па сыходу шасці месяцаў.

— Я вылоўліваю наступствы ў сябе і цяпер, хаця тыя тры дні прайшлі для мяне, па маім адчуванні, мінімальна траўматычна, — зазначае Алеся.

Некалькі тыдняў таму яна зразумела, што проста нічога не можа рабіць, — яе ахапіла апатыя. Калі з гэтым не працаваць, наступным этапам можа стаць дэпрэсія, і ў чалавека перастануць з'яўляцца сілы на самыя звычайныя рэчы, такія, як, напрыклад, гігіена.

— Так можа дайсці да суіцыдаў. На жаль, наступствы цяперашняй сітуацыі мы яшчэ ўбачым.

Цяпер ёсць шмат спецыялізаваных груп, матэрыялаў, якія можна вывучаць. Можна працаваць з псіхолагам не толькі ўжывую, але і праз месенджары, далучацца да вебінараў, глядзець відэаролікі.

### «У аўтазаку ляжаў скарыстаны прэзерватыў»

10 жніўня Алеся пайшла да Цэнтральнага РУУС Мінска, каб падтрымаць сваю сяброўку Крысціну Вітушка, у якой затрымалі непаўнагадовага сына. Там ужо стаялі людзі, якія не маглі знайсці сваіх блізкіх.

— Я ўбачыла, што некаторым патрэбны быў хтосьці, каб проста выгаварыцца. Было ўсё настолькі ціха, карэктна, у межах закона, што нават аўтазакі, якія ўвесь час пад'язджалі да РУУСа, упісваліся ў карціну: яны робяць сваю справу, мы — сваю, дапамагаем тым, хто там сабраўся. Таму я зусім не думала, што нас затрымаюць.

Але ў нейкі момант усіх, хто стаяў ля РУУСа, акружылі людзі ў чорным і правялі ў аўтазак.

— Як юрыст, я ведаю, што супраціўленне караецца па законе, таму я проста ўзняла рукі ўгару і крычала, што іду сама і не супраціўляюся, — узгадвае суразмоўца.

Яна прызнаецца: было адчуванне, што ўсё гэта — нерэальнае. У аўтазаку Алеся села на падлогу, бо месца на лавах ужо не было. Паспрабавала патэлефанаваць мужу і паведаміць, што яе затрымалі, але, як пасля даведалася, званок не прайшоў, бо былі праблемы з сувяззю. Супрацоўнікі, якія затрымлівалі людзей, былі дастаткова ветлівымі, размаўлялі з затрыманымі, казалі, каб тыя не турбаваліся: іх 20 хвілін павозяць і выпусцяць.

— Я з'ела батончык, сядзела, разглядала, што ў мяне па баках. Пакуль усе плакалі, я была досыць аптымістычная, бо базавыя патрэбы былі задаволеныя. Толькі праз тыдзень ці два ў галаве ўсплыло: я сяджу ў тарцы аўтазака на падлозе, злева ад мяне — сцягам Еўрасаюза нешта груба прывязана, дзверы ці што, а справа ляжаў скарыстаны прэзерватыў. Тады я проста здзівілася, для чаго ён, і толькі пасля, калі стала з'яўляцца інфармацыя пра пагрозы згвалтаваннем, я зразумела, што ён там рабіў.

Калі затрыманых перасаджвалі ў іншы аўтазак, ужо была агрэсія з боку сілавікоў, прымусовая здача мабільных тэлефонаў. Адной жанчыне там стала дрэнна, і Алеся ўсю дарогу да Акрэсціна спрабавала вяртаць яе да прытомнасці.

### «Абсалютны жах, пачуццё адчаю і роспачы — гэта калі пачыналіся крыкі»

— Я дакладна ведала, што нас прывезлі на Акрэсціна. У свой час я працавала ў інстытуце крыміналогіі і крыміналістыкі, і па працы была ў тым ліку і на Акрэсціна. Але тады я была там як даследчык, а тут аказалася зусім у іншай ролі.

Алеся згадвае, што ёй было проста, бо, па-першае, яна была ўпэўненая, што муж ведае пра яе месцазнаходжанне, па-другое, ведала сваю місію: яна — чалавек, які дапамагае іншым. Пагатоў, побач былі жанчыны, у якіх былі праблемы са здароўем, ці іх блізкія сядзелі ў суседніх камерах. Таму Алеся ўвесь час імкнулася падтрымліваць суседак і разраджаць абстаноўку.

— Была жанчына, якая ўсе тры дні прасядзела моўчкі. За яе я больш за ўсіх хвалююся. Бо я ўвесь час рабіла зарадку, размаўляла, усміхалася — давала працы свайму адрэналіну і картызолу, не замыкала сваю фізіялогію. А шмат людзей, якія былі ў камеры, проста замёрлі. І я разумела, што фізіялагічныя рэчы проста руйнуюць іх у гэты момант.

Нават простая ўсмешка, узгадвае Алеся, была паратункам для 36 чалавек у 4-меснай камеры, дзе яны сядзелі без пітной вады, ежы і ў духаце. Таксама Алеся змагалася з выкарыстаннем матаў і слэнгу — людзі, якія выходзяць з сутак, вельмі часта звяртаюцца да такога маўлення. Алеся тлумачыць: гэта псіхалагічны момант, калі людзі пачынаюць атаясамліваць сябе з турэмным асяроддзем — і такім чынам зняволенне пранікае ў чалавека. А ў тых умовах вельмі важна захаваць сваю ўнутраную чысціню і чалавечнасць.

— Для мяне яшчэ быў важны момант: я вырашыла, што ўвесь час буду размаўляць толькі па-беларуску.

Праўда, дапамагаючы жанчыне, якой фізічна цяжка было ісці (а зняволеных прымушалі бегчы), Алеся атрымала ўдар па карку са словамі: «Зараз ты любую мову забудзеш, не толькі беларускую».

Самыя складаныя моманты тых дзён, дакладней, начэй, адбываліся, калі на тэрыторыю ізалятара пачыналі ехаць аўтазакі. Камера, у якой сядзела суразмоўца, знаходзілася на другім паверсе, і вакно выходзіла акурат на ўезд.

— Мы ўвесь час чулі, як яны заязджалі, і як супрацоўнікі казалі: «Яшчэ? Куды? Няма куды ўжо!» Абсалютны жах, пачуццё адчаю і роспачы — гэта калі пачыналіся крыкі болю, пакутаў, крыкі мужчын: «Мама!». Тады мы з Крысцінай проста пачыналі маліцца. Прычым нічога, апроч «Ойча наш», я не магла казаць у той сітуацыі. Гэта быў такі жах, што заставаліся толькі базавыя рэчы. Я шмат з чым справілася, але гэты момант я пакуль не перажыла. Як і момант, калі 9

**«Я дакладна ведала, што нас прывезлі на Акрэсціна. У свой час я працавала ў інстытуце крыміналогіі і крыміналістыкі, і па працы была ў тым ліку і на Акрэсціна. Але тады я была там як даследчык, а тут аказалася зусім у іншай ролі»**




Ля Акрэсціна

жніўня каля выбарчага ўчастка побач са мной брутальна паклалі на зямлю дзядулю, які быў з унукам, і гэта 3–4-гадовае дзіця проста крычала.

### Саша

У адной камеры з Алесяй сядзела дзяўчына-сірата Саша Патрасаева, якая з сярэдзіны кастрычніка знаходзіцца ў СІЗА №1 на Валадарскага па крымінальнай справе аб масавых беспарадках. 14 лістапада яна сустрэла свой 21-шы дзень нараджэння. Алеся гаворыць, што, нягледзячы на ўсе цяжкасці, якія падкінула Сашы жыццё, яна засталася чалавекам з вельмі дакладна акрэсленай сістэмай каардынатаў: калі яна нешта лічыць праўдай — яна будзе змагацца за гэта да канца.

— Гэта чалавечак, які прыйшоў да нас у камеру з пашкоджанай нагой. Такое маленькае, крыху зацкаванае ваўчаня. У камеры было вельмі горача, хто мог — распранаўся. Саша праседзела ўсе трое сутак, не зняўшы ні красовак, ні чорнай байкі, ні чорных штаноў.

У ізалятары Сашы не аказвалі медычную дапамогу, далі толькі но-шпу. Пазней Алеся дапамагла Сашы атрымаць дапамогу ў бальніцы. Але потым ад усіх людзей, якія спрабавалі яе падтрымаць, Саша сыходзіла, проста абрывала кантакты. Гэта праява псіхалагічнай траўмы з папярэдняга сіроцкага жыцця яшчэ да Акрэсціна.

У той жа час, па словах Алесі, Саша — чалавек, адкрыты для дапамогі, і каб падтрымаць яе, вы можаце даслаць ёй ліст.

### «Люстрацыю трэба вельмі добра прадумваць»

Алеся Чарняўская, разважаючы пра жорсткасць сілавікоў і супрацоўнікаў пенітэнцыярнай сістэмы, з якой шараговыя беларусы сутыкнуліся цягам апошніх месяцаў, заўважае, што яна была заўсёды. І людзей можна так «апрацаваць», каб нават у звычайных грамадзянах яны бачылі злачынцаў і ставіліся да іх адпаведна.

— Гэта адзін з улюбёных прыкладаў майго мужа наконт фашысцкай Германіі. Калі людзі, якія жылі ў 30–40 кіламетрах ад канцлагераў, не ведалі, што там, і лічылі, нібы пакаранні адбываюць тыя, каму гэта належыць.

Алеся прыгадвае, што людзі, якія прымалі вязняў на Акрэсціна, пераважна маладыя, да 30 гадоў. Яны выгадаваныя ў гэтай сістэме.

— Яны знаходзяцца ў такіх умовах, дзе без належнай дапамогі ты вельмі хутка становішся монстрам, нават не заўважаючы гэтага. Яны проста адчулі, што ім можна рабіць усё.

Калі Алеся забірала рэчы з Акрэсціна, адзін з супрацоўнікаў сказаў: «Цяпер вы разумееце, як сябе паводзіць, каб сюды не трапіць?» Суразмоўца прызнаецца, што пасля гэтых словаў у яе проста «сарвала дах». Яна выказала гэтаму супрацоўніку і курсанту, які быў побач з ім, што яна не хоча нічога разумець, бо тое, што адбылося, — гэта злачынна.

Агулам сярод супрацоўнікаў ізалятара спагадлівых не было, гаворыць Алеся. Была адна наглядчыца, у якой быў «пункцік» на мажных жанчынах і жанчынах сталага веку — да іх яна ставілася асабліва жорстка. На думку Алесі, праз жорсткасць гэтыя людзі спрабуюць самасцвердзіцца.

— Гэта людзі без маральных арыенціраў і каштоўнасцяў, у іх няма стопараў — чаго нельга рабіць ні ў якім разе. Пра тое, што будзе з імі, калі сітуацыя зменіцца, трэба моцна разважаць. Люстрацыю трэба вельмі добра прадумваць.

### Каб выпрацаваўся механізм, трэба, каб былі заявы

Алеся правяла ў ізалятары трое сутак, пасля чаго яе выпусцілі без усялякіх судоў і пратаколаў. Толькі праз два месяцы яна атрымала ліст з суда Партызанскага раёна, у якім было напісана, што на яе паступіў пратакол, але ў сувязі са сканчэннем тэрмінаў працэс супраць яе не адбудзецца. З цікаўнасці жанчына пайшла ў суд, каб пазнаёміцца з матэрыяламі справы.

— У пратаколе адзінай праўдзівай інфармацыяй былі мае імя, прозвішча і год нараджэння. Высветлілася, што мяне затрымалі 11 жніўня ў 0.30 зусім у іншым месцы за тое, што я выкрыквала лозунгі: «Жыве Беларусь!», «Свабоду палітвязням!», «Ганьба!» і гэтак далей. Нібыта пасля затрымання мяне даставілі ў Партызанскае РУУС, дзе два міліцыянты сведчылі пра гэта, а трэці складаў пратакол (які пры гэтым быў складзены 10 жніўня). Зразумела, што майго подпісу ў пратаколе няма, бо я нібыта адмовілася яго падпісваць. Але больш за ўсё мяне «парадавала», што я працую электраманцёрам у дакладна існуючай фірме. Я прабіла па інтэрнэце — яна робіць шмат добрых, цікавых і карысных рэчаў, — усміхаецца суразмоўца.

**Не думаць пра «хутчэй». Змены адбудуцца ў любым выпадку, гэта бясспрэчна. І гэта ўжо момант, які вельмі моцна падтрымлівае, — калі не ставіш пад сумнеў, што праўда будзе на тым баку, на якім павінна быць**

Алесі было важна, каб сам факт адміністрацыйнага працэсу супраць яе быў абскарджаны, таму яна звярнулася са скаргай у Мінгарсуд. Адтуль ёй прыйшоў адказ, што мінуў час, і Мінгарсуд не можа ўмешвацца ў высвятленне праўдзівасці доказаў, пададзеных у пратаколе.

Жанчына гаворыць, што не верыць у беларускае «правасуддзе». Але перакананая, што для таго, каб выпрацаваўся механізм абскарджвання, трэба, каб былі заявы. Таму, апроч Мінгарсуда, Алеся напісала заяву ў пракуратуру Мінска. Адтуль яна атрымала адказ, што заява накіраваная ў Следчы камітэт і далучаная да матэрыялаў праверкі. Таксама скаргу жанчыны на ўмовы ўтрымання накіравалі ў ЦІП на Акрэсціна.

— Я падаю скаргі і буду іх падаваць, бо, нават атрымліваючы адмовы, я разумею, што сістэма хаця б крыху, але працуе.

У той жа час Алеся гаворыць, што, падаючы скаргі, разумее рызыку беларускіх рэалій самой стаць фігуранткай крымінальнай справы. Але яе рацыя для Алесі вельмі празрыстая і зразумелая.

— Гэта мая грамадзянская адказнасць — імкнуцца паказаць сістэме, што яна не мае рацыі.

### Калі спынішся, ты ўжо не будзеш чалавекам

— Жыццё да 9 жніўня было звычайным: праца-дом-сям'я. Цяпер кожны вечар — гэта нейкі варушняк: сустрэчы з людзьмі, каб паразмаўляць з імі па-беларуску, размовы з тымі, каму трэба выгаварыцца, дапамога ў пабытавых рэчах. Цяпер валанцёрства стала значна больш, — апісвае Алеся змены ў сваім жыцці.

На пытанне, дзе яна бярэ рэсурс на дапамогу іншым, суразмоўца адказвае: з сям'і, якая яе падтрымлівае, а таксама ад людзей, з якімі даводзіцца сустракацца.

— Мяне цікавяць гісторыі людзей. І я разумею, што дзеля іх я не спынюся.

Абапіраючыся на свой досвед, Алеся сфармулявала парады, якія могуць дапамагчы беларусам перажыць цяперашні крызісны стан і захаваць унутраную раўнавагу.

— Не думаць пра «хутчэй». Змены адбудуцца ў любым выпадку, гэта бясспрэчна. І гэта ўжо момант, які вельмі моцна падтрымлівае, — калі не ставіш пад сумнеў, што праўда будзе на тым баку, на якім павінна быць. Уводзіць у сваё жыццё рэчы, якія ты можаш кантраляваць: што ўстаеш у пэўны час, можаш рабіць зарадку, з'есці пэўную страву. Яшчэ адна рэч — прыбіранне таксічных людзей са свайго асяроддзя ці мінімізацыя кантактаў з імі, бо гэта вельмі моцна забірае энергію і сілы, якія цяпер вельмі патрэбныя. І, канешне, рэлігія і вера — для мяне гэта вельмі моцны момант, які нясе падтрымку.

Нягледзячы на стомленасць людзей, пратэст будзе працягвацца, перакананая Алеся Чарняўская. Бо ў грамадстве настолькі парушаныя базавыя рэчы, што, калі спынішся, ты ўжо не будзеш чалавекам.

— Маё ўнутранае аптымістычнае «я» кажа, што мы будзем велічнай краінай. І я кожны дзень за гэта малюся — за веліч незалежнай, саматсойнай Беларусі.

Алеся прызнаецца, што яе больш турбуе пытанне, не што рабіць з сілавымі структурамі пасля перамогі пратэсту, а што рабіць з сістэмай адукацыі. Бо, фактычна, тое, што мы маем цяпер, — гэта заслуга многіх настаўнікаў і прадстаўнікоў школьных адміністрацый, якія год ад году ўваходзілі ў выбарчыя камісіі.

— Тое, што цяпер адбываецца ў школах, як выхоўваюць добрых настаўнікаў і прэсуюць дзяцей, — гэта сур'ёзна. У мясцовых чатах бацькі пішуць, што на дзецях адыгрываюцца вельмі моцна.

Таксама надзвычай важна, каб людзей аб'ядноўвала новая дакладна акрэсленая ідэя пасля перамогі, калі трэба будзе праходзіць праз трансфармацыйныя выпрабаванні, каб пабудаваць вольную краіну.



## Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Лістапад 2020

**Беларускія праваабаронцы прааналізавалі ўсе вядомыя факты парушэння правоў чалавека ў Беларусі ў лістападзе — і прыйшлі да наступных высноваў:**

- На працягу месяца ўлады працягвалі актыўна ўжываць крымінальны пераслед грамадзян па палітычных матывах. У месяцах несвабоды знаходзяцца 146 палітвязняў, іх колькасць працягвае павялічвацца. Агульная ж колькасць грамадзян, у дачыненні да якіх былі распачатыя крымінальныя справы ў выбарчы і поствыбарчы перыяд, склала больш за 900 чалавек.
- Улады працягвалі практыку гвалтоўнага спынення мірных дэманстрацый пратэсту і прымянення гвалту ў дачыненні да іх удзельнікаў.
- Агульная колькасць грамадзян, затрыманых за ўдзел у сходах на працягу месяца, склала не менш за 4 000 чалавек. Такім чынам, агульная колькасць затрыманых за ўдзел у мірных сходах з пачатку выбарчай кампаніі дасягнула 30 000 чалавек.
- Органамі пракуратуры і Следчым камітэтам так і не было распачата ніводнай крымінальнай справы па фактах сістэмных і масавых катаванняў затрыманых грамадзян у перыяд з 9 па 12 жніўня 2020 года, а некаторым заяўнікам ужо прыходзяць апавяшчэнні з СК пра адмову ва ўзбуджэнні крымінальных справаў. Беспакаранасць прывяла да таго, што прадстаўнікі сілавых структур працягваюць ужываць катаванні і жорсткае, бесчалавечнае, прыніжальнае абыходжанне ў дачыненні да затрыманых удзельнікаў акцый пратэсту.
- Асаблівы рэзананс у грамадстве выклікаў выпадак гібелі 12 лістапада ў выніку збіцця і затрымання невядомымі жыхара Мінска Рамана Бандарэнкі, а таксама жорсткі разгон сілавікамі мірнай акцыі пратэсту ў Мінску і затрыманняў журналістак «Белсату» Кацярыны Андрэевай і Дар'і Чульцовай, журналісткі tut.by Кацярыны Барысевіч, а таксама доктара БХМД Арцёма Сарокіна.
- Нягледзячы на інфармацыю ў СМІ пра датычнасць да гібелі Рамана Бандарэнкі шэрагу высокапастаўленых і набліжаных асабіста да Лукашэнкі людзей, крымінальная справа па факце смерці Рамана так і не была распачатая, што толькі ўзмацняе падазрэнні ў грамадстве пра датычнасць да яго смерці афіляваных з дзеючай уладай асобаў і сілавых структур.
- Парушэнне права на жыццё Генадзя Шутава, Аляксандра Тарайкоўскага, Аляксандра Віхора і Рамана Бандарэнкі не прызнанае ўладамі і не расследуецца.
- У цэлым, эксперты ПЦ «Вясна» адзначаюць далейшае ўзмацненне рэпрэсій і яшчэ большае пагаршэнне крызісу правоў чалавека ў Беларусі на фоне дэградацыі прававой сістэмы краіны і яе пераналадкі на рэпрэсіі ў дачыненні да грамадзян.



18 снежня 2020 | № 48 (707) Новы час

# Самая ціхая дыктатура

Алег НОВІКАЎ

**Як сведчыць вопыт Партугаліі, нават самая доўгая і стабільная дыктатура заканчваецца тым, што яе лідар губляе здольнасць глядзець у будучыню, ствараючы падставы для пераменаў.**



Фота www.thetimes.co.uk

У 2007 годзе на партугальскім тэлебачанні адбыўся грандыёзны скандал. У галасаванні на тэлешоу «Самы вялікі партугалец у гісторыі», першае месца (41% галасоў) сярод дзесяці фіналістаў заняў дыктатар Антоніу Салазар (1889–1970). Ён абышоў Васка да Гама (0,7%), Луіса дэ Камоэнса (4%), Генрыха Мараплаўца (2,7%) і іншых славутых партугальцаў.

Некаторыя, зразумела, пачалі абурацца. Але іншыя каментатары заклікалі не хвалявацца. Практыка сведчыць, што на такіх шоу гледачы вельмі часта ў правакацыйных мэтах наўмысна галасуюць за супярэчлівых персанажаў. У Расіі на падобным конкурсе перамагаў Сталін, а ва Украіне — Бандэра. Акрамя таго, сімпатыі на адрас моцнай рукі цалкам зразумелыя ў часы эканамічнай турбулентнасці, што ў 2007-м перажывала Партугалія.

У 1928 годзе ў падобнай атмасферы, падчас эканамічнай дэпрэсіі, прыйшоў да ўлады і Антоніу Салазар — сын уладальніка карчмы, выкладчык і эканаміст. Праўда, сітуацыя тады была значна горшай. На мяжы 1920–1930-х гадоў у краіне панаваў вельмі жорсткі эканамічны крызіс, калі інфляцыя дасягала дзясяткаў працэнтаў на год. Знешні доўг зжыраў 40 працэнтаў расходаў бюджэту. Меў месца і моцны палітычны крызіс: за 16 гадоў існавання рэспублікі ў краіне змяніліся 9 прэзідэнтаў ды 44 урады, 21 раз здараліся спробы рэвалюцый. На нейкім этапе генералы, якія яшчэ ў 1926-м зрынулі рэспубліку, вырашылі прызначыць Антоніу Салазара крызісным менеджарам з пасадай прэм'ер-міністра.

Тое, што абралі Салазара, тлумачыцца ў тым ліку яго характарам, а дакладней, фенаменальным нежаданнем быць публічнай фігурай. З часам партугальцы пачалі жартаваць, што Салазар у выпадку любой вулічнай дэманстрацыі закрые ў кабінеце фіранкі, нават калі гэта мітынг у яго падтрымку. Некаторыя гісторыкі нават бачылі ў гэтым адзнакі ментальнай дэвіяцыі. Цяжка назваць нармальным чалавека, які цураецца жанчын, не ўжывае спіртнога, не паліць, не цікавіцца прадметамі спажывання або культурнымі навінкамі. Ёсць версія, што псіхічныя змены сталі наступствам няўдалага рамана Антоніу ў маладосці, калі ён, будучы настаўнікам, заляцаўся да сваёй вучаніцы.

Так ці інакш, Салазар вельмі хутка дамогся прарываў. Бюджэт да 1932 года быў больш-менш збалансаваны, курс эскуда стабілізаваўся, была наведзеная фінансавая дысцыпліна. І самае галоўнае — новы міністр фінансаў дасягнуў беспрэцэдэнтнай у гісторыі Партугаліі з'явы — прафіцыту бюджэту. Праўда, крытыкі пішуць, што сакрэтам поспеху была замарозка заробкаў бюджэтнікам (іх не падымалі амаль 30 гадоў). Да таго ж у партугальскіх калоніях была ўведзеная прымусовая працоўная служба для абарыгенаў, якіх абавязалі бясплатна працаваць на дзяржаўных аб'ектах аж да старасці.

**Правы на свабоду слова, сходаў, прэсы ў Канстытуцыі згадваліся, аднак было абмежаванае «для агульнай карысці». Тымі, каму гэта не падабалася, займалася PIDE — палітычная паліцэйская служба**

Пазітыўныя трэнды ў эканоміцы былі настолькі бясспрэчныя, што Салазар атрымаў дазвол грамадства, каб перабудаваць краіну на ўласны густ. Хутка была сфармуляваная канцэпцыя «Новай дзяржавы» («Estado Novo»), якая была прапісаная ў новай Канстытуцыі. Паводле гэтага Асноўнага закону краіна жыла аж да сярэдзіны 1970-х гадоў.

У аснову новай ідэалогіі была закладзеная ідэя нацыяналізму, карпаратывізму і стабільнасці праз гармонію класаў і жорсткую іерархію з Салазарам наверсе. Правадыру краіны дапамагала адзіная кіруючая партыя — «Нацыянальны саюз». Кіраўнікі правінцый прызначаліся цэнтрам. Правы на свабоду слова, сходаў, прэсы ў новай Канстытуцыі згадваліся, аднак тут жа было напісана, што яно абмежаванае «для агульнай карысці». Тымі, каму гэта не падабалася, займалася PIDE — палітычная паліцэйская служба. Працы ў яе заўсёды хапала, аднак магчымасць партугальцаў свабодна эміграваць аслабляла ўнутраны пратэст. Дадатковую лаяльнасць забяспечвалі сацыяльныя праграмы, кшталту будаўніцтва даступных кватэр, якія нашы турысты ў Партугаліі любяць называць «салазараўкі».

Хаця выбары пры Салазары нічога не вырашалі, чамусьці быў уведзены выбарчы фільтр — каб галасаваць, жанчыны павінны былі мець адукацыю, а мужчыны — умець пісаць і чытаць. У выніку выбарчым правам маглі скарыстацца толькі 1,2 мільёна чалавек з 7 мільёнаў жыхароў краіны. Аднак нават такая формула дала збой. У 1958-м нейкі генерал здолеў аб'яднаць усю апазіцыю і атрымаць на выбарах чвэрць галасоў. Прамыя выбары прэзідэнта адразу былі адмененыя. Цяпер гаранта абірала выбарчая калегія, а PIDE арганізавала забойства таго генерала.

Так доўга ўтрымацца пры ўладзе Салазару дапамагла ў тым ліку і міжнародная кан'юктура. У часы вайны Партугалія, з аднаго боку, прадавала Германіі стратэгічна важныя для яе ВПК карысныя выкапні, а з іншага — абяцала антыгітлераўскай кааліцыі базу на Азорскіх выспах. Пасля 1945-га амерыканцы запісалі Партугалію ў NATO ў рамках глабальнага супрацьстаяння з камунізмам, адпаведна, заплюшчыўшы вочы на ўнутраныя рэпрэсіі. А вось кансенсусу па пытаннях дэкаланізацыі Лісабон з Вашынгтонам так цалкам і не знайшлі. Ужо пры Кенэдзі гэтыя супярэчнасці дасягнулі такіх маштабаў, што NATO ў 1966-м ігнаравала вайсковы захоп Індыяй партугальскай калоніі Гоа, хаця статут Альянсу патрабуе адразу прыйсці на дапамогу краіне-сябру.

Увогуле, з пачатку 1960-х Партугалія вяла бясконцыя каланіяльныя войны за ўтрыманне заморскіх калоній. Новая фаза войнаў пачалася ў 1970-х гадах і, як вядома, скончылася бунтам вайскоўцаў, што арганізавалі рэвалюцыю. Гэта здарылася ў красавіку 1974-га.

Трошкі нават шкада, што сам Салазар не дажыў да таго часу. Ён памёр у 1970-м — праз год пасля інсульту, калі страціў здольнасць працаваць. Але сам ён да смерці нават не падазраваў, што знаходзіцца ў адстаўцы, паколькі ніхто з яго ўчорашніх падначаленых так і не адважыўся яму пра гэта паведаміць. Міністры працягвалі прыходзіць да яго ў шпіталь з дакладамі, і нават выпускалі для пацыента газету з «правільнымі» навінамі накладам у адзін экзэмпляр.

Цікава, што б напісалі ў той газеце ў дзень рэвалюцыі, калі б дыктатар быў яшчэ жывы?

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Лідары беларускай апазіцыі пайшлі Расіі насустрач, запэўніўшы, што баяцца ёй няма чаго. Аднак у Маскве перакананыя, што дэмакратычная Беларусь непазбежна пойдзе ў бок Захаду, калі ёй не перашкодзіць фізічна. Таму Пуцін неахвотна ўмяшаўся ў падтрымку Лукашэнкі, прапанаваўшы неабходныя фінансавыя сродкі і каманду дарадцаў, а таксама галасна паабяцаўшы пры неабходнасці задзейнічаць расійскія сілы бяспекі. Аднак пуцінская падтрымка Лукашэнкі выклікае адчуванне сумнай непазбежнасці».

**Atlantic Council (ЗША)**

«У Крамлі не хочуць, каб прэзідэнтам (Беларусі) сталі прамыя прадстаўнікі Злучаных Штатаў Амерыкі, Польшчы і Літвы. Да таго ж, натуральна, у асяроддзі Пуціна ёсць людзі, якія нагнятаюць яго ўяўленні пра небяспеку такога сцэнару. Гэта значыць, Пуцін не хоча бачыць Святлану Ціханоўскую прэзідэнтам, нават пераходным, а хоча, каб Еўрасаюз, уключаючы Польшчу і Літву, дамовіўся з ім пра нейкі сумесны сцэнар транзіту ўлады ў Беларусі. Калі такія перамовы будуць праведзеныя, Расія дашле Лукашэнку "адзіны правільны сігнал": 2021 год павінен стаць для яго апошнім годам знаходжання ва ўладзе».

**Replyua.net (Украіна)**

«Кансалідаваны аўтарытарны рэжым з лаяльным буйным бізнесам і магутным сілавым апаратам за спінай сапраўды аказаўся "моцным арэшкам". Тэхналогіі каляровых рэвалюцый, разлічаныя на дэцэнтралізаваныя і нестабільныя рэжымы "алігархічных дэмакратый", ва ўмовах Беларусі сталі малаэфектыўнымі. Падзеі апошніх месяцаў паказалі, што створаная Лукашэнкам сістэма ўлады перажывае глыбокі крызіс, а пратэставы патэнцыял у беларускім грамадстве вялікі, як ніколі. Аднак пакуль што ўсяго гэтага недастаткова, каб зрынуць "апошнюю дыктатуру Еўропы"».

**RuBaltic (Расія)**

«Савецкі стыль кіравання Лукашэнкі азначае, што ў Маскве яго звычайна лічаць саюзнікам, а Крэмль вельмі задаволены, як адміністрацыя беларускага кіраўніка выступае ў якасці буфера, што перашкаджае далейшаму прасоўванню NATO на Усход. Але цяпер сітуацыя складваецца вельмі няпростая. Пасля праведзеных у жніўні прэзідэнцкіх выбараў іх вынікі былі аспрэчаныя. Больш за ўсё Крэмль непакоіць магчымасць з'яўлення ў Беларусі празаходняга ўраду. Пакуль дэманстранты падкрэсліваюць, што ім у першую чаргу трэба не сяброўства ў ЕС і NATO, а адстаўка Лукашэнкі. Тым не менш, Расія ўважліва назірае за развіццём падзей».

**Forbes (ЗША)**

«Нягледзячы на знешне нязменную палітыку ў дачыненні да Беларусі і яе лідара, Крэмль працягвае аддаляцца ад яго. Кіраўніцтва Расіі не хавае, што яму не падабаецца адсутнасць хоць нейкага грамадскага дыялогу ў Беларусі. І гэта галоўная прычына аддалення ад Лукашэнкі, які нічога не робіць, каб знізіць градус грамадска-палітычнай напружанасці ў рэспубліцы. У выніку гэта прывядзе да канчатковага крызісу ў Беларусі з-за санкцый ЕС і адсутнасці падтрымкі з боку Расіі».

**Monavista (Расія)**

# «Думаю, што мы імкнёмся да аддзялення»

Алег НОВІКАЎ

**У сваім упартым нежаданні прызнаць перамогу Джо Байдэна некаторыя рэспубліканскія адміністрацыі штатаў заяўляюць пра намер выхаду са складу ЗША.**




Пантэон амерыканскіх герояў, як вядома, сёння знаходзіцца ў стане капітальнага рамонту. Праз датычнасць да рабства шмат былых куміраў янкі адпраўляюць на сметнік гісторыі. Днямі дайшла чарга і да Джорджа Вашынгтона, чый статус героя, падавалася, аспрэчыць немагчыма. Але факт застаецца фактам — заснавальніка ЗША вінавацяць у... здрадзе сваёй краіне. Здрада непасрэдна выявілася ў тым, што Вашынгтон заснаваў на месцы былых калоній федэральную дзяржаву, хаця ідэалагічным драйверам амерыканскай рэвалюцыі была ідэя перманентнага сепаратызму.

«Амерыканская рэвалюцыя была сепаратысцкім рухам. Усе мы маем дачыненне да аддзялення, таму што наша краіна была заснаваная актам аддзялення ад Англіі. Сецэсія ў пэўным сэнсе з'яўляецца праявай патрыятызму. У той момант, калі нешта ў краіне ідзе не так, вы, як патрыёт, выступаеце супраць і сыходзіце», — піша адзін з крытыкаў першага гаранта Злучаных Штатаў.

У прынцыпе, падобныя пастулаты — не сенсацыя, аднак цяпер яны нечакана аказаліся ў фокусе ўвагі шматлікіх медыя. Чыннікам такога інтарэсу сталі апошнія заявы некаторых тэхаскіх рэспубліканцаў, якім не спадабалася пастанова Вярхоўнага суда на пазву ўрада штата. Тэхасцы, нагадаем, заклікалі да адмены выбараў у некаторых штатах, дзе прайграў Дональд Трамп. Суддзі адмовілі пазоўнікам, што дазволіла апошнім пабудаваць наступны ланцуг высноў: калі штат не мае юрыдычнага права скардзіцца наконт празрыстасці працэдур выбараў прэзідэнта ў другім штаце, гэта значыць, ніякай федэрацыі, па-сутнасці, не існуе.

Далей — больш. Ацаніўшы вердыкт Вярхоўнага суда як «легітымацыю палітычнага беззаконня ў ЗША», Кайл Бідэрман, адзін з тэхаскіх дэпутатаў, напісаў у Facebook: «Бяру на сябе абавязак унесці на наступную парламенцкую сесію праект заканадаўчага акта, што дазволіць правесці рэферэндум, на якім тэхасцы прагаласуюць за аднаўленне сваёй незалежнай дзяржавы».

Такім чынам, у Х'юстане збіраюцца перагледзець Акт аб уступленні Тэхаса ў склад ЗША. Дарэчы, па іроніі лёсу, той Акт быў прыняты роўна 175 гадоў таму, 29 снежня 1845 года. Бідэрман ужо не хавае, што права тэхасцаў на сецэсію будзе грунтавацца на артыкуле Акту, які гарантуе жыхарам штата «неад'емнае права змяняць, рэфармаваць альбо адпраўляць свой урад у адстаўку такім чынам, які яны лічаць мэтазгодным».

Праўда, у федэральных юрыстаў хапае на гэты конт сваіх джокераў. Згаданы Акт прамым тэкстам забараняе штату права на выхад з федэрацыі. Акрамя таго, ёсць судовы прэцэдэнт, які надае Вярхоўнаму суду права адмяняць рашэнне заканадаўчага органа Тэхасу аб аддзяленні. Нарэшце, Канстытуцыя ЗША адназначна не прадугледжвае магчымасці сецэсіі федэральных суб'ектаў.

Зрэшты, магчыма, ніякай сецэсіі тэхаскім фанатам Трампа і не трэба. Гаворка можа ісці пра фарміраванне нейкай кааліцыі штатаў, што возьме курс на паслабленне сувязяў з федэральным цэнтрам аж да дамовы сабатаваць распараджэнні Белага Дома. Пра гэта заявіў старшыня тэхаскіх рэспубліканцаў Ален Уэст. «Законапаслухмяныя штаты павінны аб'ядначца, стварыць саюз дзяржаў, які будзе выконваць Канстытуцыю», — сказаў ён.

Цікавая рэакцыя на навіны з Тэхасу на старонках выданняў, якія сімпатызуюць дэмакратам. Натуральна, шмат з іх крытыкуюць тэхаскіх трампістаў за рызыкоўныя гульні. Але адначасова гучаць незвычайныя заўвагі. Напрыклад, пра тое, што дэбаты ў Тэхасе даюць падставу перагледзець існуючыя межы штатаў на карысць дэмакратаў. Напрыклад, падзел Каліфорніі, якая пагалоўна галасуе за Дэмпартыю, на два або больш штатаў дазваляе дэмакратам разлічваць на сталую большасць у Сенаце.

Найбольш радыкальныя гісторыкі заклікаюць не хаваць праўду: сепаратызм заўжды быў складнікам палітычнага працэсу ў Злучаных Штатах. Прычым, часта ў вельмі кур'ёзным выглядзе. У 1968 годзе, у разгар руху за грамадзянскія правы, сепаратысцкая групоўка афраамерыканцаў пад назвай «Рэспубліка Новая Афрыка» запатрабавала стварэнне незалежнай «чорнай дзяржавы» на Поўдні. У 1861 годзе мэр Нью-Ёрка прапанаваў жыхарам выхад з ЗША з мэтай абароны эканамічных прывілеяў, якія горад атрымаў ад гандлю з Поўднем.

Вялікі рэзананс таксама выклікалі тэзісы аднаго з гуру амерыканскіх кансерватараў, які адзначае: грамадства ўсё больш і больш свядома рыхтуецца да падзелу ЗША на дзве краіны. «Думаю, што мы імкнёмся да аддзялення. Я бачу, як усё больш людзей пытаюцца: «Што ў нас агульнага з людзьмі, якія жывуць, скажам, у Нью-Ёрку»? Не можа быць мірнага суіснавання дзвюх абсалютна розных тэорый жыцця, тэорый кіравання, тэорый таго, як мы кіруем сваімі справамі. Мы можам аказацца ў гэтым жудасным канфлікце, калі не дапусцім таго, каб нехта з нас вольна сышоў», — піша публіцыст.

Гледзячы па ўсім, Амерыка сапраўды не будзе такой, як раней, хаця прырода будучых перамен яшчэ не зразумелая. Затое дакладна вядома, што наступная заканадаўчая сесія ў Тэхасе стартуе ў студзені.

**Найбольш радыкальныя гісторыкі заклікаюць не хаваць праўду: сепаратызм заўжды быў складнікам палітычнага працэсу ў Злучаных Штатах. Прычым, часта ў вельмі кур'ёзным выглядзе**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Вячаслаў Нікanaў



Дэпутат расійскай Думы ў эфіры аднаго з федэральных каналаў у запале дыскусіі пералічыў землі, якія адышлі ад Расіі да суседніх краінаў у якасці бонусаў. Акрамя Віцебска і Данбаса быў згаданы і Паўночны Казахстан.

У Беларусі і Украіне развагі Ніканава асаблівай рэакцыі не выклікалі. А вось у Казахстане быў скандал на самым высокім узроўні. У Міністэрства замежных спраў Казахстана быў запрошаны часовы павераны ў справах Расійскай Федэрацыі, якому выказалі здзіўленне з нагоды выказванняў Ніканава. Адначасова група мясцовых гісторыкаў паведаміла, што заявы расійскіх палітыкаў не маюць падстаў. Гісторыкі таксама прапанавалі стварыць дзяржаўную праграму па мэтавым грантавым фінансаванні навукоўцаў, якія спецыялізуюцца на тэме тэрытарыяльнага размежавання і могуць даказаць гістарычную прыналежнасць паўночных абласцей Казахстану. Нарэшце, найбольш радыкальныя патрыёты зноў загаварылі пра неабходнасць вяртання ў склад Казахстана расійскага горада Арэнбурга, які пэўны час быў сталіцай Казахстанскай ССР. Тымі ж патрыётамі ініцыяваны флэш-моб, у рамках якога казахі заходзяць на інтэрнэт-старонку Ніканава і заклікаюць палітыка «вучыць гісторыю».

Дарэчы, словы Ніканава прагучалі напярэдадні святкавання дня незалежнасці краіны, які адзначаецца 16 снежня.

### Кірстэн Лі



Экс-дэпутатка дацкага парламента, а цяпер кандыдатка ў мэры горада Фрэдэрыксберг ад адной з мясцовых з левырадыкальных партый, на думку прэсы, пазначыла новыя гарызонты глабальнай феміністкай рэвалюцыі. У выпадку сваёй перамогі 72-гадовая Лі абяцае рэформы, накіраваныя на трыумф гендарнай роўнасці ў горадзе.

У прыватнасці, прапануецца ўстаноўка гендарна-нейтральных святлафораў — на якіх чырвоныя і зялёныя чалавечкі выяўлены не толькі мужчынамі, але і жанчынамі. Па-другое, прапануецца перайменаваць палову гарадскіх вуліц, названых у гонар мужчын. Працаўнікі Лі ўжо адрэагавалі на экстравагантныя ініцыятывы. Яны падлічылі, што ў горадзе прыкладна 125 вуліц са 150 названы ў гонар мужчын. Іх перайменаванне абыдзецца муніцыпалітэту прыкладна ў 3,8 мільёна долараў, што фактычна азначае банкруцтва.

Цікава, што многія феміністкі таксама асцярожна паставіліся да ідэй Лі, яны падазраюць, што кандыдатку ў мэры выкарыстоўваюць праціўнікі гендарнай роўнасці ў мэтах дыскрэдытацыі жаночага руху. Зрэшты, так ці інакш, нават яе апаненты прызнаюць засілле мужчынскіх імёнаў у тапаніміцы дацкіх гарадоў. Таму выключаць хаця б частковую рэалізацыю праектаў Лі ў перспектыве нельга.

### Віталь Клічко



Баксёр, а цяпер мэр Кіева разглядаўся як адзін з фаварытаў датэрміновых прэзідэнцкіх выбараў, правядзенне якіх дапускаецца многімі экспертамі на фоне падзення рэйтынгу прэзідэнта Зяленскага. Аднак цяпер шанцы мэра-баксёра выглядаюць не так блiскуча — усё сапсаваў калапс гарадской гаспадаркі з-за галалёду, што на мінулым тыдні напаткаў сталіцу Украіны.

У горадзе ўтварыліся велізарныя заторы. Рух у Кіеве і ваколіцах быў практычна паралізаваны. Людзі вымушаны былі хадзіць па праезнай частцы, бо па ходніках ісці аказалася немагчыма. Аддзяленні траўматалогіі ў Кіеве перапоўненыя пацыентамі з траўмамі рознай ступені цяжкасці. Як і трэба было чакаць, вінаватым у сітуацыі шмат хто называе Клічко, які не здолеў аператыўна навесці парадак на вуліцах. Застаецца дачакацца вынікаў сацыялагічных апытанняў, каб даведацца, ці моцна камунальная катастрофа адаб'ецца на іміджу мэра.

Затое дзевяцігадовая дзяўчынка Маша Маісеенка стала адназначнай улюбёнкай кіяўлян. Маша — гераіня відэа, на якім яна з вялікім партфелем на плячах спрабуе ўскараскацца на пакручасты Андрэеўскі спуск, але беспаспяхова — школьніца падае зноў і зноў, і так шмат разоў. Паколькі гэтыя кадры абляцелі ўсе сусветныя медыя, Маша прачнулася знакамітай. Яе ўпартасць і энтузіязм так спадабаліся людзям, што многія заклікаюць дзяўчынку хутчэй расці, каб балатавацца ў кіеўскія мэры.

# «Толькі беларусы могуць дапамагчы беларусам»

**Паўтара месяца таму ў Беларусі запусцілі праект 23.34 — «грамадскае расследаванне парушэнняў з боку міліцыі, звязаных з мірнымі акцыямі». 42.TUT.BY пагутарыў са стваральнікам платформы пра тое, якая канчатковая мэта праекта.**




## Што такое спецпраект 23.34?

Артыкул 23.34 КаАП называецца «Парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў». Са жніўня гэтага года па ім былі затрыманыя без перабольшання дзясяткі тысяч беларусаў, якія атрымалі пасля суткі і штрафы.

У канцы кастрычніка ў байнэце быў запушчаны рэсурс 23-34.net. Мэта праекта, як сказана на сайце, «сабраць інфармацыю пра абсалютна ўсе парушэнні з боку міліцыі, звязаныя з мірнымі акцыямі, пачынаючы са старту перадвыбарчай кампаніі». Стваральнікі праекта абяцаюць правесці «вялікае грамадскае расследаванне ўсіх эпізодаў псіхалагічнага і фізічнага гвалту, катаванняў, неналежнага абыходжання і самога факту прыцягнення да адказнасці паводле артыкула 23.34 і іншых артыкулаў, якія ўлады выкарыстоўваюць для рэпрэсій у дачыненні да ўдзельнікаў мірных акцый».

Усіх, хто быў затрыманы падчас, пасля або ў сувязі з мірнымі пратэстамі і (або) асуджаны паводле артыкулаў 23.34, 23.4 альбо сумежных, просяць падзяліцца інфармацыяй. На сайце ўжо сабрана больш за чатыры тысячы гісторый.

Канчатковай мэтай праекта з'яўляюцца «сумленныя суды над усімі, хто быў датычны», фіксацыя кожнага выпадку гвалту, атрыманне поўнай карціны таго, што адбываецца, а таксама прадастаўленне даных для міжнародных арганізацый.

Цяпер праект супрацоўнічае з шэрагам беларускіх фондаў, праваабарончых арганізацый і ініцыятыў, такіх, як By_Help, Probono, «Вясна», Міжнародны камітэт па расследаванні катаванняў у Беларусі, і некаторымі СМІ. Таксама ўжо распачатая праца з еўрапейскімі праваабаронцамі і палітычнымі структурамі.

## Якія даныя ўжо ёсць на сайце?

Цяпер на сайце сабрана больш за чатыры тысячы гісторый (калі дакладней, то 4339), з якіх можна вывесці агульныя тэндэнцыі апошніх месяцаў. Згадаем некалькі цікавых фактаў адтуль — але адзначым, што даныя прыведзеныя на момант 14 снежня. Інфармацыя абнаўляецца кожныя суткі.

Як гаворыцца ў раздзеле «Пульс пратэсту», у 3819 гісторыях фігуруюць непасрэдна затрыманні (пік — 10 жніўня), а ў 520 — выклік позвай і іншымі спосабамі.

Агульная колькасць прысуджаных сутак склала 16977. Агульная сума штрафаў — 853510 рублёў.

У 1134 выпадках з 4339, па сведчаннях тых, хто запоўніў анкету, ужываўся фізічны гвалт: пры затрыманні, транспарціроўцы або ўжо ў РА(У)УС (часам у адной анкеце сустракаліся апісанні гвалту адразу на некалькіх этапах затрымання). Максімальная колькасць выпадкаў, згодна з раздзелам «Фізічны гвалт», здарылася, зноў-такі, 10 жніўня.

У 37,1% выпадкаў гвалт прымяняўся да мужчын, і ў 7,4% — да жанчын (адносна агульнай колькасці затрыманняў мужчын і жанчын адпаведна).

Паводле інфармацыі, прыведзенай у раздзеле «Партрэт пратэстоўца», 73% затрыманых па краіне — гэта мужчыны. А што да ўзросту — больш за ўсё людзей 30–34 гадоў.

Калі глядзець увогуле па Беларусі, то прадстаўнікоў прыватнага бізнесу сярод затрыманых — 59%, супрацоўнікаў на дзяржслужбе і з дзяржпрадпрыемстваў — 18%, а студэнтаў, пенсіянераў і беспрацоўных — 24%.

**Усе гісторыі праходзяць базавую верыфікацыю. Да прыкладу, валанцёры правяраюць, ці сапраўды згаданы ў аповедзе супрацоўнік міліцыі або суддзя працуюць у названых установах**

Больш за ўсё пастаноў (з задакументаваных на платформе) вынес суддзя Першамайскага раёна Мінска Максім Трусевіч: 74 пастановы, колькасць сутак — 601, сума штрафаў — 15 525 рублёў.

## Хто стварыў гэты праект і навошта ён патрэбны?

Стваральніка праекта завуць Сяргей. Ён папрасіў не згадваць яго прозвішча і месца працы — хоць цяпер ён знаходзіцца ў неаплатным адпачынку за межамі Беларусі, але ўсё роўна не хацеў бы прыцягваць залішнюю ўвагу ўладаў да сваёй сям'і і працадаўцы.

Пра сябе Сяргей кажа, што з сям'і вайскоўцаў — фактычна, ён першы з «дынастыі», хто не прайшоў праз ваенную службу (дый тое выпадкова атрымаўшы траўму). У палітычнай дзейнасці таксама актыўнага ўдзелу не браў, але заўсёды быў неабыякавы да таго, што адбываецца ў краіне.

У жніўні 2020-га Сяргей знаходзіўся ў Мінску. Асабіста яго не затрымлівалі, але ў яго асяроддзі дастаткова людзей, якія атрымалі пакаранне паводле артыкула 23.34. Так што 1 кастрычніка ён узяў адпачынак за свой кошт і разам з беларускай-праваабаронцай з Бруселя прыкладна за тры тыдні стварыў платформу 23.34. Сяргею таксама дапамагала ў гэтай працы яго жонка, і на сённяшні момант яна працягвае разбіраць уваходныя водгукі ад людзей.

Усе выдаткі па стварэнні і падтрыманні працы Сяргей аплаціў са сваіх сродкаў.

— Я хацеў стварыць платформу, якая істотна пашырае і аўтаматызуе магчымасці па зборы і аналізе даных, якія сёння ёсць у «Вясны» і Міжнароднага камітэта па расследаванні катаванняў у Беларусі. Даць людзям інструмент, які дазволіў бы не ісці да праваабаронцаў або даваць інтэрв'ю, а запоўніць анкету дома, у спакойных умовах, плюс сабраць даныя ад людзей з не самымі жорсткімі кейсамі. Няхай іх і не збілі, але ў дачыненні да гэтых людзей сапраўды гэтак жа быў парушаны закон, іх гэтак жа абылгалі ў судзе, штурхалі і прыніжалі пры затрыманні, — кажа суразмоўца.

## Дзяліцца сваімі гісторыямі бяспечна?

Каб дадаць сваю гісторыю на сайт, трэба ўсяго толькі запоўніць анкету — на гэта сыдзе ад 15 да 30 хвілін. Асабістыя даныя ўладальнікаў анкет не публікуюцца ў адкрытым доступе без іх згоды, а публічная аналітыка праекта не ўтрымлівае імёнаў, асобных пратаколаў або кантактных даных пацярпелых.

Пры запаўненні анкеты ў кожнага карыстальніка пытаюцца, ці згодны ён дзяліцца сваімі данымі з праваабарончымі арганізацыямі і іншымі партнёрамі, каб яны дапамаглі пры неабходнасці з выплатай штрафу, далі юрыдычную або псіхалагічную дапамогу. А таксама пра тое, ці згодны ён, каб інфармацыю перадалі ў міжнародныя праваабарончыя арганізацыі альбо СМІ.

Калі ўладальнік анкеты адкажа «так», то інфармацыю па ім пададуць пры запыце ў адпаведную арганізацыю. Аднак ніхто звонку не атрымае поўны доступ да ўсёй базы — валанцёры ад кожнай партнёрскай ініцыятывы працуюць толькі з часткай ананімізаваных даных, якія датычаць менавіта іх профілю. Доступ да кантактных даных уладальнікаў анкет даецца, толькі калі гэта неабходна для аказання ім дапамогі — напрыклад, Probono або By_Help не змогуць дапамагчы чалавеку без яго кантактных даных.

Абмен данымі адбываецца з выкарыстаннем шыфраванага канала, даныя захоўваюцца на абароненых серверах. Даныя карыстальніка могуць быць выдаленыя ў любы момант пасля запаўнення анкеты — для гэтага толькі трэба зрабіць адпаведны запыт у тэлеграм-канал t.me/belarus_2334.

## Як правяраюць сапраўднасць гісторый?

Сяргей кажа, што ўсе гісторыі праходзяць базавую верыфікацыю. Да прыкладу, валанцёры правяраюць, ці сапраўды згаданы ў аповедзе супрацоўнік міліцыі або суддзя працуюць у названых установах, і ці не складаюць сумы штрафаў ды колькасць сутак велізарную лічбу, што магло б «паламаць статыстыку».

— У 60% выпадкаў нам дасылаюць пастановы і пратаколы, так што большасць гісторый верыфікаваная. Пры неабходнасці мы дадаём верыфікацыю праз СМС па тэлефонным нумары або па e-mail, каб выключыць магчымасць, што адзін чалавек здзяйсняе DDoS-атаку (запаўняе анкету шмат разоў з несапраўднымі данымі) з аднаго адрасу.

Пры жаданні падчас запаўнення карыстальнікі таксама могуць у адзін клік даць даныя сваіх анкет на платформе 23-34.net у праект «Адзіная кніга рэгістрацыі злачынстваў».

— Калі ў будучыні хтосьці з міжнародных праваабарончых арганізацый захоча атрымаць дэталёвыя доказы парушэнняў заканадаўства і міжнароднага права або атрымаць копіі пастаноў, якія ў нас захоўваюцца, або доступ да людзей, якія падалі анкету, каб узяць іх заяву, яны могуць скарыстацца формай для зваротнай сувязі на нашым сайце, — працягвае Сяргей. — Калі да нас звернуцца прадстаўнікі афіцыйных арганізацый, то мы дадзім ім доступ — але толькі да тых звестак, выкарыстанне якіх дазволілі самі людзі.

Пры гэтым нікому з тых, хто звярнуўся, інфармацыя не даецца ў поўным аб'ёме — адкрываецца толькі тая частка, якая адпавядае спецыфіцы іх працы.

## Чаму рашэнне праблем беларусаў — справа рук саміх беларусаў?

Сяргей кажа, што праект першапачаткова мае праваабарончы фокус. Перш за ўсё, ён і яго партнёры арыентаваліся на тое, каб зрабіць аналаг праваабарончага інтэрв'ю, якое не прапускае ніводнай важнай дэталі.

Аднак у цэлым гэта толькі частка працы. Першы крок — стварэнне платформы — зроблены. Другі крок — пачаць супрацоўнічаць з дыяспарамі беларусаў за мяжой, каб яны перадалі інфармацыю пра сітуацыю ў роднай краіне далей, сваім палітыкам і праваабаронцам, — зроблены таксама. І пакуль Сяргей чакае рэалізацыі трэцяга. Да іх яшчэ не звярнуліся еўрапейскія палітыкі, але каманда ўжо пераклала на англійскую мову ўсю аналітыку і сам сайт. Калі хто-небудзь выявіць жаданне, яму кожны тыдзень будзе прыходзіць на пошту дэталёвая справаздача па колькасці затрыманняў, прымянення спецсродкаў і гвалту пры затрыманні і транспарціроўцы ў Беларусі.

Але пры гэтым стваральнік праекта падкрэслівае, што рашэнне праблемы ўсё ж знаходзіцца ў руках беларусаў.

— Добра, калі нам дапамогуць замежныя арганізацыі, але чакаць, што нас выратуе Еўрасаюз ці ЗША, ці Расія, не варта. Таму што любая перамога, атрыманая з рук старонніх, не з'яўляецца шляхам да свабоды.

Вядома, мне лёгка разважаць, знаходзячыся не ў Беларусі (хоць я быў у Мінску падчас выбараў і ў наступныя дні), але я думаю, што калі мы як нацыя не выпрацуем калектыўны імунітэт да цяперашняй хваробы і самі не атрымаем перамогу, то нічога добрага з гэтага не будзе.

Мы павінны самі выпрацаваць ахоўныя антыцелы, каб не захварэць наноў, стварыць інфраструктуру грамадзянскай супольнасці. Толькі беларусы могуць дапамагчы беларусам. Усё роўна, няхай гэта будуць дыяспары ці ж жыхары ўнутры Беларусі, але гэта павінна быць нашым унутраным пытаннем.

**Пераклад НЧ, друкуецца ў скароце**

Таццяна ПРОЦЬКА

# Інструменты дзяржаўнага тэрору

**У БССР былі створаныя два тыпы ўстойлівых механізмаў дзяржаўных рэпрэсій. Першы — па ўказанні з Масквы, другі — па ўласнай ініцыятыве. Маскоўскі ўключаў пошук ворагаў у маштабах СССР, мясцовы — вырашаў пытанні савецкага развіцця толькі ў БССР. Падчас Вялікага тэрору працавалі абодва механізмы.**




## Па ўказцы з Масквы

У снежні 1938 года ў НКУС СССР на імя Берыі паступіла заява ад двух камсамольцаў з Мсціслава Магілёўскай вобласці — Ратчанка І. і Цітова І., якія працавалі ў раённай газеце. Камсамольцы пісалі, што пад заступніцтвам сакратара райкама КП(б)Б, рэдактара раённай газеты і начальніка раённага аддзялення НКУС у раёне «ў многіх галінах гаспадаркі дзеюцца варожыя справы». У гэты час ажыццяўлялася «чыстка» (такі выраз ужываўся ў дакументах) раёнаў СССР ад варожых элементаў, ліст разам з супрацоўнікамі НКУС з Масквы быў дасланы ў НКУС БССР, які таксама накіраваў у Мсціслаў сваю праверку. У выніку была вызначаная «выключная засмечанасць раёна сацыяльна чужымі і варожымі элементамі».

Паколькі камсамольцы скардзіліся на тое, што «варожым элементам» кіруюць першы сакратар райкама КП(б)Б, рэдактар раённай газеты і начальнік РА НКУС, праверку пачалі з разгляду іх дзейнасці. Два апаратныя супрацоўнікі НКУС, якія прыехалі з Масквы, усталявалі «развал раённай камсамольскай арганізацыі», «засмечанасць выкладчыкага складу школ», «наяўнасць сярод школьнікаў зладзейскіх груп», былі ўсталяваныя выпадкі малявання дзецьмі фашысцкіх значкоў. Усё гэта адразу расцанілі як факты варожай дзейнасці настаўнікаў, сваякі якіх былі рэпрэсаваныя.

Было ўстаноўленае і шкодніцтва — на конезаводзе №120 за 1938 год загінулі 5 жарабіц, 18 жарабят, 31 цяля і 35 парасятаў. У шкодніцтве былі абвінавачаныя ветэрынар завода і яго дырэктар. Апошняга абвінавацілі і ў здзеках з працоўных, бо ён штрафаваў работнікаў за тое, што тыя ў працоўны час, пасланыя для нарыхтоўкі драўніны для завода, нарыхтоўвалі дровы для сябе. На заводзе працавалі дзеці і падлеткі без згоды інспекцыі аховы працы.

У калгасах раёна было знойдзена парушэнне статута сельгасарцелі, «безгаспадарлівасць, якая даходзіць да шкодніцтва», павялічаныя звыш нормы прысядзібныя ўчасткі ў 490 калгаснікаў, 74 калгаснікі мелі кароў звыш нормы. Былі выкрытыя факты страты збожжа пры ўборцы (калгас імя Юрчанка), падмярзанне выкапанай, але не складаванай бульбы.

Супрацоўнікі НКУС выявілі таксама вінаватасць службовых асоб раёна — сакратара райкама КП(б)Б, упаўнаважанага Камітэта нарыхтовак па Мсціслаўскім раёне, намесніка старшыні райвыканкама, старшыні райспажывсаюзу. Усе яны былі абвінавачаныя таксама ў роднасці або кантактах з ужо асуджанымі «ворагамі народа».

Варта адзначыць, што выяўленнем шкоднікаў актыўна займаліся і кіруючыя камсамольцы. Так, сакратар ЦК ЛКСМБ Галоўкін асабіста ўдзельнічаў у раскрыцці контррэвалюцыйнай арганізацыі ў Мсціслаўскім раёне.

Віна рэдактара раённай газеты («Калгасная газета») была ў тым, што ён «займае згодніцкую пазіцыю ў адносінах да кіраўнікоў раёна, не ставіць прынцыпова пытанне перад імі па тых сігналах, што паступаюць у рэдакцыю».

НКУС БССР пачаў службовае расследаванне на начальніка раённага НКУС і агентурна-следчыя справы супраць выяўленых ворагаў, у дачыненні да негатыўнага стану партыйнай дзейнасці праінфармаваў першага сакратара ЦК КП(б)Б Пятра Панамарэнку.

Вядома, узнікае пытанне — чаму з тысяч лістоў, якія дасылаліся ў НКУС СССР і БССР пільнымі савецкімі грамадзянамі, быў абраны менавіта гэты ліст? Канкрэтных адказаў на гэта пытанне архіўныя дакументы не ўтрымліваюць. Як правіла, маскоўскі механізм уключаўся тады, калі неабходна было знайсці спосабы ўздзеяння на рэспубліканскае партыйнае і гаспадарчае кіраўніцтва (кампрамат для змены непажаданых кіраўнікоў, для падтрымкі ў саюзных органах тых ці іншых праектаў і іншае). Або прыбраць тых, хто быў непажаданы рэспубліканскай уладзе, але, па тых ці іншых прычынах, быў для яе недасягальны. Гэты механізм дзейнічаў увесь час, пакуль існаваў СССР. Цікава, што ён заўсёды пачынаўся са зваротаў працоўных, а не па ініцыятыве ўлады.

## «Чорная ноч»

Беларускі механізм быў падобны на саюзны. 8 кастрычніка 1936 года чырвонаармеец 6-га палка 2-й дывізіі, сябра ВЛКСМ з'явіўся ў Асобы аддзел дывізіі і паведаміў, што ён даведаўся ад таварыша — палкавога настаўніка, з якім быў у сяброўскіх адносінах, студэнта Вышэйшага педагагічнага інстытута, — пра тое, што ў Мінску існуе варожая антысавецкая арганізацыя, і пералічыў некаторых яе ўдзельнікаў. 9 кастрычніка на двух студэнтаў педінстытута данёс і сам настаўнік, які з'яўляўся паведамляльнікам асобага аддзела дывізіі.

11 кастрычніка былі арыштаваныя адказны сакратар газеты «Піянер Беларусі» Ф.Клімёнак і студэнт 2-га курса літаратурнага факультэта педінстытута С.Шляхціч, а таксама паведамляльнік Сліжыкаў, які ў час не данёс пра існаванне арганізацыі. У выніку іх допытаў былі арыштаваныя яшчэ 8 чалавек — студэнтаў, выкладчыкаў педінстытута, супрацоўнікаў газеты. Выяўлена, што ўсе яны распавядалі «пахабныя контррэвалюцыйныя анекдоты, накіраваныя супраць партыі і ўрада», — «паўсюль, дзе гэта ўяўлялася магчымым — у рэдакцыі, інстытуце, на кватэры». Пасля допытаў новых арыштаваных, арыштавалі яшчэ 8 чалавек, сярод якіх супрацоўнік Белдзяржвыдавецтва Ракіта-Законнікаў, Белрадыёцэнтра — С.Грахоўскі. Далей была знойдзена іх сувязь з ужо асуджанымі «нацдэмамі» Мараковым, Дударам Аляксандрам». Заведзена агентурная справа «Маладыя».

У працэсе распрацоўкі агентурнай справы былі арыштаваныя яшчэ 7 студэнтаў літфаку педінстытута, на 7 завялі агентурныя справы. Крымінальная справа ўзнікла па раскрыцці «нацдэмаўскай антысавецкай, шпіёнскай, фашысцкай арганізацыі». Былі праведзеныя арышты ў газетах «Піянер Беларусі», «Чырвоная змена», «ЛіМ»,«Іскра Ільіча», у Белдзяржвыдавецтве, Белдзяржкіно, Белрадыёцэнтры, у Акадэміі Навук, у Белдзяржуніверсітэце, у Вышэйшым педагагічным інстытуце, сярод пісьменнікаў.

Ужо на 3 лістапада «арыштавана пакуль 70 чалавек, у тым ліку пісьменнікі Сташэўскі, Зарэцкі, Вольны, Баранавых, Багун, Маракоў. Іх арышт узгоднены з ЦК КП(б)Б. Усе яны, з пункту гледжання літаратурнага, каштоўнасці не ўяўляюць», — пісалася ў чарговай справаздачы аб праведзенай працы.

Паводле сведчанняў арыштаваных былі вызначаныя і кіраўнікі арганізацыі — Зарэцкі, Вольны, Сташэўскі. У іх узялі паказанні, згодна з якімі выявілі дачыненне да арганізацыі пісьменніка Цішкі Гартнага (Жылуновіча), была атрыманая санкцыя на яго арышт. З допытаў апошняга нібыта вызначылі сувязь «з украінскімі нацыяналістамі Хвільовым, Досвітнім, Палішчуком, Дняпроўскім, Курбасам, Вішняй, Ірчанам, Гільовым, Эпікам», якія «яшчэ ў перыяд 1930–1933-х гадоў дамовіліся аб усталяванні адзінага нацыяналістычнага фронту для барацьбы з савецкай уладай».

Далейшыя распрацоўкі прывялі да адкрыцця сумна знакамітай справы №9031 (кастрычнік 1937 года) па раскрыцці «нацыянал-фашысцкай тэрарыстычнай, шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі». Былі асуджаныя да 8–10 гадоў пазбаўлення волі, расстраляныя сотні прадстаўнікоў беларускай і беларуска-яўрэйскай інтэлігенцыі, у тым ліку толькі ў ноч на 29–30 кастрычніка 130 чалавек (у асабістых справах іх смерць афармлена як 29, так і 30 кастрычнікам 1937 года).

## Па просьбах працоўных

Падчас Вялікага тэрору сігналаў аб парушэннях «ад працоўных» паступала столькі, што не ўсе з іх пераправяраліся — апарат спецслужбаў быў перагружаны. У асобных выпадках толькі даносу было дастаткова для хуткага, без адкрыцця крымінальнай справы, асуджэння да працяглага пазбаўлення волі або расстрэлу — калі гаворка ішла аб дачыненні да антысавецкай арганізацыі. Такое асуджэнне называлася — «па альбомных спісах».

Асуджаліся людзі як звычайнымі судамі, так і адмысловымі — Тройкамі і Асобымі тройкамі, якія былі створаныя для таго, каб разгрузіць звычайныя суды. У Троек судовы працэс быў спрошчаны, пасяджэнне займала каля 15 хвілін — за такі час, як засведчана ў следчай справе (з 11.00 да 11.15), быў асуджаны да расстрэлу Тодар Кляшторны.

**Падчас Вялікага тэрору сігналаў аб парушэннях «ад працоўных» паступала столькі, што не ўсе з іх правяраліся. У асобных выпадках толькі даносу было дастаткова для хуткага асуджэння да пазбаўлення волі або расстрэлу**

Вялікі тэрор, які прайшоў у нашай краіне 80 гадоў таму, вырашаў важныя для савецкай улады задачы дзяржаўнага развіцця і кіравання. Найперш, былі ліквідаваныя агмяні любога арганізаванага іншадумства — палітычнага, эканамічнага, культурнага, інтэлектуальнага, нацыянальнага.

Па-другое, пад кантроль спецслужбаў былі ўзятыя ўсе элітныя групы савецкага грамадства і іх найбольш яркія прадстаўнікі. Па-трэцяе, дзяржава паспрабавала, хай і з часовым поспехам, укараніць у свядомасць грамадзян перакананасць у няўхільнасці жорсткага пакарання за парушэнне нормаў і стандартаў, устаноўленых дзяржавай.

Страх перад рэпрэсіямі, і нават магчымасцю быць названым «шкоднікам» або «ворагам народа», зрабіўся асноўным стымулам для эканамічнага і палітычнага развіцця савецкай дзяржаўнай сістэмы. А даносшчыцтва, вызначанае як дзяржаўная норма (за недаанесенне было прадугледжана крымінальнае пакаранне), стварыла дадатковы механізм кантролю за выкананнем палітычных і эканамічных установак.

## Ударная чэкісцкая праца

Варта асабліва адзначыць, што ў выніку Вялікага тэрору быў наладжаны кантроль з боку спецслужбаў за савецкай гаспадарчай і партыйнай бюракратыяй, які пасля тэрору набыў татальны характар: агентурная сетка збірала інфармацыю пра дзеянні ўсіх ланцужкоў дзяржаўнай машыны — ад шараговых выканаўцаў да вышэйшага кіраўніцтва.

Злучэнне міліцыі і палітычнага вышуку ў адным ведамстве давала магчымасць сабраць найбольш поўную інфармацыю пра жыццё ўсіх кіруючых работнікаў (паводле так званых «наменклатурных спісаў»), на кожнага з якіх заводзілася спецыяльная тэчка, якая ўключала любую негатыўную інфармацыю, у тым ліку даносы і матэрыялы іх праверак. Калі прадпрыемства не выконвала план, выпускала няякасную прадукцыю ці на ім мелі месца выпадкі вытворчага траўматызму, забастоўкі або проста незадаволенасць рабочых, спецорганы абавязкова правяралі, ці не было шкодніцтва з боку кіраўніцтва прадпрыемства і кіраўніцтва галіны, у якую прадпрыемства ўваходзіла. Тэчкі з падшытымі матэрыяламі за некалькі гадоў дазвалялі следчым пры неабходнасці выбудаваць любую версію меркаванага злачынства.

Заўважу, што ў адсутнасць кампутараў збор інфармацыі, яе апрацоўка і афармленне былі досыць працаёмкімі. У тыя часы было папулярна характарызаваць паспяховую працу стаханаўскай, ударнай. Чэкісцкая праца ў БССР была ўдарнай і выконвалася «стаханаўскімі метадамі».




# Новая казка пра прыгоды Літары Ў

**Музычная калядная казка «Як Літара Ў ды Святы Мікалай Каляды ратавалі» — цудоўны спосаб адсвяткаваць разам з дзецьмі старажытныя беларускія Каляды.**

Гэта ўжо трэці абсалютна самастойны калядны сюжэт з серыі казак, і пяты ў цыкле «Неверагодныя Прыгоды Літары Ў».

Агулам усе часткі праекта выйшлі 30+ паказамі за тры гады, прычым не толькі ў Мінску, але і некалькі разоў праехалі па Беларусі з паспяховымі гастролямі.

Паказ новай казкі серыі пройдзе 8 студзеня а 15-00 у знаёмай зале — Маладзёжным тэатры эстрады. Для тых маленькіх і дарослых гледачоў, якія па нейкіх прычынах не змогуць прысутнічаць на паказе асабіста, каманда стваральнікаў казкі сумесна з сервісам kvitki.by рыхтуе сюрпрыз у сучасным лічбавым фармаце — магчымасць падтрымаць казку праглядам у інтэрнэце. Спасылка з'явіцца на сервісе kvitki.by праз некалькі дзён пасля паказу 8 студзеня і будзе даступная да 19 студзеня, калі калядныя святы ў Беларусі традыцыйна заканчваюцца Вадохрышчам.

Дык пра што ж новы сюжэт? Гэтым разам Літара Ў, разумная беларуская дзяўчынка Янінка ды сам Святы Мікалай змагаюцца супраць Мораку Заморскага. Мораку дапамагае, вядома, злая Марана. Выратаваць страчаныя, здавалася б, Каляды, а разам з тым і ўвесь Чароўны Бор змогуць толькі светлыя дзіцячыя душы.

Змаганне не будзе лёгкім. Але Дабро абавязкова пераможа!

**8 студзеня, Маладзёжны тэатр эстрады, 15-00.**





Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №2104

Падпісана да друку 17.12.2020. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.